
Пятро Карпюк→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Белавежскі „Ручаёк”→8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 44 (3051) Год LIX Беласток, 2 лістапада 2014 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


XXI Фестываль беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні «Бардаўская восень» праходзіў з 23 па 27 кастрычніка ў Бельску-Падляшскім, Беластоку, Гайнаўцы, Орлі, Нарве, Шчытах-Дзенцялове і Чыжах. Козырам сёлетняга бардаўскага фестывалю былі выступленні канкурсантаў у Бельскім доме культуры на высокім мастацкім узроўні, што заўважылі журы і публіка. Узнагароду Гран-пры фестывалю здабыў Аляксандр Ясінскі, а лаўрэатамі дзвюх раўнапраўных узнагарод сталі Сяргей Башлыкевіч і Зміцер Вінаградаў. Зоркі, перш за ўсё колішнія пераможцы «Бардаўскай восені», захаплялі публіку ў Бельскім доме культуры, у якім праходзіла асноўная частка фестывалю, а таксама ў іншых мясцовасцях.


■ Лаўрэат Гран-пры «Бардаўскай восені» Аляксандр Ясінскі

# БАРДАЎСКАЯ ВОСЕНЬ — 2014

Удзельнікі конкурснай часткі прыехалі з Беларусі і Прагі. Па-рознаму яны праяўлялі на бельскай сцэне свой музычны талент, спяваючы пад гітару і іншыя інструменты.

— Сёлетні конкурс быў моцным. Мужчынская частка канкурсантаў была мацнейшая за дзявочую. Відаць было, што паасобныя хлопцы былі мацнейшымі за гурты. Мы пачулі розныя творы і трэба задумацца, што такое бардаўская песня? — сказаў адразу пасля фестывальнага адбору Зміцер Вайцюшкевіч з конкурснай камісіі, у якую ўваходзілі таксама Алег Хаменка і Багдан Сіманенка. — Канкурсанты павінны так спяваць, каб зразумелымі былі і мелодыя, і словы. Сёння прэзентаваліся цікавыя тэксты і песні на дастойным узроўні.

— Мы звярталі ўвагу на прафесійнасць выступаў, тэмы і словы песень, — заявіў Алег Хаменка (ён і Зміцер Вайцюшкевіч выступілі таксама як зоркі «Бардаўскай восені»).

— Я першы раз выступаў на конкурсе з бардаўскай песняй і адчуваю адказнасць з-за таго, што атрымаў узнагароду. Сённяшні выступ у Бельску гэта для мяне новы напрамак і думаю, што варта па ім развівацца. Не хачу абмяжоўвацца беларускім рокам, бо тут ёсць цікавая гульня словамі, — сказаў Аляксандр Ясінскі, лаўрэат узнагароды Гран-пры «Бардаўскай восені», які захапіў сабраных выступаючы і ў конкурснай часткі фестывалю, і як зорка ў гурце «Босае сонца». Прыехаў ён на конкурс з Прагі, дзе пражывае. Узнагароду ўручыў яму старшыня Звязу ў карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры «Шчыты» Ігар Лукашук, які з'яўляецца галоўным арганізатарам «Бардаўскай восені».



■ Узнагароду Беларускага радыё «Рацыя» атрымаў Сяргей Башлыкевіч (злева)

Узнагароду Беларускага радыё «Рацыя» з рук праграмнага дырэктара Юркі Ляшчынскага атрымаў малады бард, ураджэнец Ашмян, Сяргей Башлыкевіч, які займальна выступіў у суправаджэнні Анны Рубчэні і Мішы Міхалоўскага.

— Мне прыемна, што журы спадабаўся мой выступ. Канкурэнцыя была дастойнай, хаця я бачу, што выканаўцы па-рознаму разумеюць бардаўскую песню, — гаварыў Сяргей Башлыкевіч.

Зміцер Вінаградаў з Гомеля запрэзентаваўся ўжо падчас «Бардаўскай восені» ў 1996 годзе і рашыўся спраўдзіць свае ўмеласці сёлета. Выступіў на высокім мастацкім узроўні і атрымаў супольную ўзнагароду бельскага бургамістра і бельскага старасты, якую яму ўручылі выконваючы абавязкі бургамістра Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі і намеснік старасты Пётр Божка.


■ Зміцер Вінаградаў з Гомеля атрымаў супольную ўзнагароду бельскага бургамістра і бельскага старасты

— Тут выступіў годны састаў канкурсантаў, перш за ўсё маладыя музыкі, адораныя талентам. Было з кім змагацца за перамогу. Узнагарода ў конкурсе гэта для мяне дадатковая энергія да працы ў галіне музыкі, — гаварыў Зміцер Вінаградаў, які папярэдні раз выступіў, будучы яшчэ студэнтам.

Мерапрыемства ў Бельскім доме культуры ўдала вялі Ілона Карпюк-Дамброўская і Радаслаў Дамброўскі, якія згадалі шматлікіх прыхільнікаў і спонсараў «Бардаўскай восені». Сярод іх галоўным спонсарам з'яўляецца Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі, а сам бардаўскі фестываль адбыўся пад ганаровым патранатам прэзідэнта горада Беластока.

— На беларускай музычнай сцэне ёсць шмат цікавых выканаўцаў, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё беларускай аўтарскай песні і тут ёсць таксама заслуга нашага мерапрыемства. Цяпер запрашаем да нас выступаць у якасці зорак конкурсных пераможцаў нашага фестывалю, — сказаў Ігар Лукашук, каардынатар «Бардаўскай восені». — Сёлетняя конкурсная частка карысталася вялікім зацікаўленнем выканаўцаў. У Мінску з ліку больш за 40 ахвотных прыняць удзел у конкурсе, камісія адабрала 9 спевакоў. Далучаны да іх быў удзельнік з Прагі. Адборачная камісія ў Мінску запрапанавала выступ гурта «Рэ Мажор» па-за конкурсам і прэзентуецца ён як госць фестывалю, з даўжэйшай праграмай.

Гурт «Рэ Мажор» выступіў адразу пасля канкурсантаў і спадабаўся публіцы. Конкурсныя выканаўцы «Бардаўскай восені», якія не дабіліся перамогі, таксама цёпла ўспрымаліся бельскай публікай. Мінская вакалістка Таццяна Тутэйшая нездарма стала пераможцай галасавання публікі падчас сёлетніх элімінацый да бельскага конкурсу, якія праходзілі ў Мінску, бо выступіла займальна з гуртам «Тутэйшыя» падчас фінальнага конкурсу ў БДК.

— Мне бліжэй да фолька і сённяшні выступ таксама да яго набліжаны, — сказала Таццяна Тутэйшая.

Публіку зацікавіла таксама Лізавета Леўчык, маладая вакалістка, кампазітарка, якая спявае песні на свае словы і вершы беларускіх паэтаў, адна з пераможцаў конкурсу маладых выканаўцаў «Заспявай. BY». Мінчанка Валерыя Мельнік, якая ў Бельску выступіла са сваімі аўтарскімі творамі, сказала, што ў будучыні хацела б выступаць з джазам і блюзам.

— Я люблю рух на сцэне і таму хацеў разварушыць публіку, але не надта атрымалася, — заявіў Мікіта Найдзёнаў.

Алёна Варона — лідарка беларускага рок-гурта «Варона» — выступае таксама самастойна і цікава запрэзентавалася на бельскай сцэне з аўтарскімі песнямі. Цікава выступілі падчас конкурсу гурты «МІП» і «Гарадскі вал».

Сёлета ў рамках фестывалю «Бардаўская восень» у Бельску-Падляшскім, Беластоку, Гайнаўцы, Орлі, Нарве, Шчытах-Дзенцялове і Чыжах выступіла многа дастойных зорак, у тым ліку Зміцер Вайцюшкевіч, Алег Хаменка, «Босае сонца», «Navi», «Нельга забыць», Паліна Рэспубліка, «Relikt», «Сундук», «ILO&friends», якія выклікалі зацікаўленне мясцовай публікі. У сінагозе ў Орлі ўдала з супольным паэтычна-музычным праектам запрэзентаваліся Надзея Артымовіч, Алег Кабзар і Марк Яраш.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Спраўджаная місія

Няма больш з намі Віктара Дзесяціка, шчырага адданага беларускай справе патрыёта, актыўнага няўрымслівага грамадскага рупліўца. Традыцыйны штогадовы фэст у Свіслачы і Якушоўцы — Дзень памяці паўстанцаў 1863 года, які адбываўся сёлета ў нядзелю 26 кастрычніка — у светлы восеньскі дзень быў ахутаны для ўсіх прыехаўшых і прыйшоўшых сумам. Грамадская супольнасць Свіслачы зазнала вялізную страту. Віктар Дзесяцік рыхтаваў і гэты чарговы фэст, але не дажыў да яго. Цяжкі інсульт падпільнаваў яго ў 55 год, а ўсім нам здавалася, што гэты энергічны чалавек яшчэ шмат чаго паспее і зробіць. Нехта нібыта адмыслова падгадаў дзень пахавання гэтага чалавека да Дня памяці Герояў.

Віктар Дзесяцік... Дбайны гаспадар і адказны бацька, сапраўдны сем'янін і надзейны сябра. Ніколі не шкадаваў свайго часу, сілаў і асабістых сродкаў на грамадскія справы, даводзіў іх да канца. Чалавек — аголены нерв, вельмі востра перажываў несправядлівасць, якой так шмат у нашай краіне. Напэўна і таму яго арганізм не вытрываў напругі. Не меў вышэйшай адукацыі, але меў вельмі дасціпны розум, цікавіўся тэхнічнымі навінкамі, цэлы час насіўся з нейкімі камп'ютарнымі праграмамі, прапаноўваў іх усталяваць іншым. У яго фейсбуку так і застанецца застаўка „Свабоду палітвязням!" — Віктар Дзесяцік з сябрамі неаднаразова праводзіў не толькі памятныя, але і праваабарончыя акцыі салідарнасці ў сваім горадзе.

Дзень Герояў сёлета прайшоў як звычайна годна, прыехаўшыя з розных мясцовасцей Гарадзеншчыны, Берасцейшчыны, Мінска людзі пабылі на паніхідзе ў праваслаўнай царкве, правялі ў апошні шлях Віктара Дзесяціка, якога накрылі бел-чырвона-белым сцягам, усклалі кветкі, запалілі зніччы і паставілі іх ля помнікаў нацыянальных герояў, наведалі Якушоўку — былы фальварак роду Каліноўскіх. У гэты сонечны дзень лунала некалькі нацыянальных сцягоў.

Дзень памяці паўстанцаў прайшоў як звычайна і так, як не павінна быць. Улады зноў нагналі процьму міліцыянтаў, людзі ў цывільным сядзелі па ўсім перыметры цэнтральнай плошчы ў Свіслачы, „камітэтчыкі" лезлі з відэакамерамі і фотаапаратамі проста ў твар прыехаўшым людзям. Добра яшчэ, што на гэты раз у іх хапіла розуму нікога не затрымліваць і арыштоўваць.

Віктар Дзесяцік быў сапраўды чалавекам пагранічча, часта ездзіў на Беласточчыну, марыў пра хутчэйшыя ўводзіны малога памежнага руху і ўвогуле ліквідацыю штучнай мяжы паміж Беларуссю і Еўропай. Вазіў у сваю родную Свіслач газеты „Ніва", аднойчы на мытні ў яго забралі некалькі дзясяткаў выдання. Улады таксама штрафавалі, цкавалі яго за акцыі памяці, а ён рэзка адказваў мясцовым прыслужнікам рэжыму, якія толькі хавалі вочы і маўчалі.

Пахаваны Віктар Дзесяцік паблізу праваслаўнай царквы, побач са сваім бацькам, дзе помнік з надпісам па-беларуску. Зусім недалёка і магіла іншага Віктара — Каліноўскага, ідэолага вызвольнага руху, з якой у фэст звычайна пачынаецца ўшанаванне нашых патрыётаў дзевятнаццатага стагоддзя. Віктар Дзесяцік таксама выступаў за праўду і адраджэнне нацыянальнай годнасці. Відаць, гэта вышэйшая місія чалавека на гэтым свеце — быць за праўду. Наш сябра за сваё нядоўгае жыццё гэтую місію паспеў рэалізаваць. Ушаноўваючы памяць продкаў, ён заслужыў і права, каб памяталі яго. І так у Свіслачы будзе, бо час усё фільтруе і расстаўляе праўдзівыя адзнакі.

Хацелася б яшчэ звярнуцца да самаўрадаўцаў Падляшша, да мастацкіх творчых калектываў Беласточчыны, якія ў рамках супрацоўніцтва і абмену часам прыязджаюць у гасцінную памежную Свіслач (ведаю, што яны таксама чытаюць „Ніву"). Калі вас будуць чарговы раз прымаць хлебам-соллю мясцовыя чыноўнікі і цешыць культурніцкай праграмай, папрасіце іх паказаць не толькі помнікі Леніну ды Сталіну, папрасіце іх звадзіць вас таксама да магіл і помнікаў сапраўдным героям. Пакладзіце туды хоць адну кветачку і ціха памаўчыце.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Смачна і гераічна



Сібірскі тыгр, гадаванец прэзідэнта Пуціна імем Кузя, нечакана задзёр хвост і столькі яго бачылі ў Расіі. Кажуць, збег у Кітай, што расійскае грамадскае меркаванне палічыла недаравальнай здрадай. Тым больш, што Кузя, ад прыроды рэчаў адважная істота, стаў знакавай мадэллю ўлады, якую ўзурпуе прэзідэнт Расіі: супердзяржаўнай, усёмагутнай, за якой так сумавалі расійскія грамадзяне. Такая вось улада здымае з іх абавязак мыслення, а думка, асабліва самастойная думка, і, перш за ўсё самастойная думка ў пуцінскай Расіі, гэта цяжкая гарапашка, кранаючая гераізму. Несумненна, такі гераізм прадэманстравала актывістка Расійскага камітэта салдацкіх маці Людміла Багаценкава. Яна абнародавала сакрэтную інфармацыю аб забітых ва Украіне расійскіх салдатах. Вядома, урад РФ катэгарычна гэта адмовіў, як і тое, што Расія здаўна вядзе неабвешчаную вайну з Украінай. На самой справе, кожны думаючы расіянін павінен гэтаму пярэчанню адмовіць праўды, але справа ў тым, што такое стаўленне ўжо даўно страціла для іх сваю красу. Тым больш, што гераізм у сённяшняй Расіі караецца пазбаўленнем волі. Людміла Багаценкава ўжо арыштавана. Верагодна, такі ж лёс сустрэне невялікі, жахліва невялікі працэнт расіян. Толькі што большасць з іх ужо не думае, замест таго паўтарае тое, што наплюе ім у вушы пуцінская прапаганда. Яна працуе на ўсіх франтах чалавечай даверлівасці, рухаючы ў здурнелых грамадзянах вялікарасійскія комплексы і шавінізмы, крыўды, фобіі і адчувальнасці. І ў некаторых нават цынізм і фанабэрыстасць. Па гэтай прычыне расце расійскі нацыяналізм. Ці не нагадвае гэта нацысцкага амоку, у які трапілі немцы ў трыццатыя гады XX стагоддзя?

На гэтым фоне ўцёкі Кузі ўдвая балючыя для расіян. Раз, што гэта прымусіла некаторых з іх да балючай рэфлексіі пра прыроду свабоды, і два, што выяўлены недахопы неабмежаванай улады Пуціна. Усё ж, існуюць межы, якіх не можа ён перакрочыць! Пакуль перакрочваў беспакарана і межы з суседнімі дзяржавамі, і палітычныя нормы, і чалавечую ўяву. Нарэшце, стукнуўся галавой аб кітайскую сцяну. Або гэта кітайская сцяна набіла гузака яму на лбе. Так Кузя застанецца там, дзе ёсць. Будзем спадзявацца, што кітайцы не заб'юць яго да смерці, каб згатаваць з яго суп. Невядома чаму, яны ўпіраюцца, што адварам з тыгровых лап павялічваецца мужчынская патэнцыя. Што на гэта скажа Уладзімір Пуцін? Ну, лепшы афрадызіяк гэта сіла, якую можна ўбачыць, калі з самцовай бесклапотнасцю паказвае свету біцэпсы. Яны ўражваюць расіян і таму ў Расіі ён можа дазволіць сабе ўсё. Можа ссылаць палітычных сапернікаў у канцэнтрацыйныя лагеры, зачыняць незалежныя СМІ, душыць грамадзянскую крытыку. Таксама можа загадаць Кузю вярнуцца ў Расію. І гэта ўсё, што можа. У Расіі. Кузя над сімвалічны сервітут Пуціну выбраў свабоду. У Кітаі. Нават па цане варкі ў сагане.

Гаворачы аб сталовых густах кітайцаў, у мяне ёсць дваістыя пачуцці ў адносінах да іх. Мне падабаецца кантонская кухня з гароднінай. Не адмоўлюся ад морапрадуктаў у вострым соўсе. Але, вядома, не ткнуў бы тушанай сабачыны, хоць кавалачак вужакі з імбіравай начынкай плаўна праглынуў і нават мне было смачна. Кітайскае кулінарнае ўяўленне дзівіць. Мурашоў, павукоў, чарвякоў вараць, мацаруюць, смажаць па-майстэрску, як парасткі бамбука. Але нават яны не рушылі б шалупліага кракадзіла. Тым часам, расійская палата па назіранні за харчовым рынкам абвясціла, што пры дэфіцыце свініны, пагадзілася імпартаваць кракадзіліну з Філіпін. Пасля гэтага ў прапуцінскай прапагандоўцы «Российская газета» апублікавалі артыкул садзейнічаючы экзатычным смакам п.з. «Смажаныя кракадзілы і бегемоты з рашоткі». Энтузіязм, з якім аўтар апісвае іх пажыўныя перавагі, роўны агідзе землякоў, якія на працягу некалькіх месяцаў глытаюць рэштквы пыл на паліцах прадуктовых крам. Не кажу, што расіянам заглядвае ў вочы голад, але, так сказаць, ахвотна куснулі б польскай каўбасы, літоўскіх кіндзюкоў і французскіх сыроў. Пакуль што, абыдуць голад кракадзілавым стэйкам. Таму пажадаем ім смачна-гераічнага апетыту.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Сакрэты забыцця

Як большасць назіральнікаў палітычнага жыцця я працiраў вочы ад здзіўлення, калі назіраў за скандалам, які выклікаў былы міністр замежных спраў, а цяпер маршалак Сейма Радаслаў Сікорскі ў сувязі са сваім інтэрв'ю амерыканскаму парталу «Politico» пра нібыта перамовы ў 2008 годзе паміж Польшчай (прэм'ер-міністр Дональд Туск) і Расіяй (тады прэм'ер-міністр, а цяпер прэзідэнт Уладзімір Пуцін) у справе падзелу Украіны. Ён сказаў: «На працягу многіх гадоў мы ведалі, што яны так думаюць. Гэта была адна з першых рэчаў, якія Пуцін сказаў прэм'ер-міністру Дональду Туску падчас яго візіту ў Маскву. Ён сказаў, што Украіна з'яўляецца штучнай краінай, а Львоў польскі горад і чаму б тады не аформіць гэтага разам. На шчасце, Туск не адказаў. Ён ведаў, што размова запісваецца». Радаслаў Сікорскі адмовіўся ад гэтых заяў, спаслаўшыся на дрэнную памяць (сустрэча Пуцін — Туск не адбылася, такія словы мелі не прагучаць). Пры нагодзе скандалу ў газеце «Dziennik» з'явіўся артыкул, да якога аніводзін з палітыкаў — наколькі я ведаю — не аднёсся, быў прамоўчаны, а калі факты, якія змяшчаюцца ў ім, сапраўдныя, гэта не менш сенсацыйныя, чым тое быццам бы дагаворанне аб падзеле Украіны. І што яшчэ больш важна, гэта паказвае бягучыя бяздарнасці ў польскай усходняй палітыцы, яе «каланіяльны» характар. Аўтары артыкула пісалі: «Расіяне ў палітыцы набліжэння да Польшчы на працягу многіх гадоў бачылі магчымасць заключыць здзелку ў справе былых савецкіх рэспублік. Гэта тычылася не толькі пра Украіну, але і пра Беларусь ды Малдову». Яны згадалі прапанову Расіі, якая павінна была быць прадстаўлена палякам у 2010 годзе: «Гаворка была аб стварэнні нефармальнага пагаднення Масква — Варшава ў палітыцы ў бок Мінска, Кіева і Кішынёва. Расіяне казалі пра яго ў прыхаванай форме. Сцвярджаючы, што так Польшча, як і Расія (як дзяржавы на больш высокай прыступцы цывілізацыі) павінны несці адказнасць за хаатычнае памежжа. Варшава не ўзняла тэмы. У выпадку Беларусі ў 2010 годзе, у час актыўнага супрацоўніцтва Сікорскага з яго расійскім калегам Сяргеем Лаўровым, зандавала, аднак, наколькі Расія гатовая адмовіцца ад падтрымкі Лукашэнкі і правесці «аперацыю пераемнасць». Прымаючы пад увагу інтарэсы Польшчы». Далей у артыкуле газеты «Dziennik» можам прачытаць: «Па нашай інфармацыі, Польшча вяла неафіцыйныя перамовы з Расіяй аб стаўленні Крамля да Лукашэнкі. Расія была фруставана яго двайной гульнёй і марудлівасцю ў перадачы кантролю над стратэгічнымі кампаніямі, як МАЗ ці Беларуськалій. Сігнал, што падтрымка Масквой прэзідэнта не вечная, быў адпраўлены Сікорскаму падчас сустрэчы з Лаўровым у Вілянове ў верасні 2010 года. Інфармацыя пра настроі за Бугам, якой распараджалася польскае Міністэрства замежных спраў, паказвала, што Лукашэнка пераможа, але толькі ў другім туры. Гэта давала шанц увесці ў рэальную палітыку беларускую апазіцыю (калі тая паставіць адзінага кандыдата). Польшча падтрымлівала Уладзіміра Някляева, паэта і лідара руху «Гавары праўду!». Някляеў таксама меў ціхае адабрэнне Масквы. І фінансаванне беларускай дыяспарай у Расіі. Эміграцыя для Масквы з'яўляецца патэнцыйным рычагом у палітыцы ў адносінах да Мінска і ядром постлукашэнкаўскай эліты, прыхільнай Крамлю. Сярод яе ёсць таксама былы ўплывовы кіраўнік беларускага МУС Уладзімір Навумаў. У выніку, Някляеў быў у 2010 годзе прымальны і для Варшавы, і для Масквы. Умовай поспеху праекта было зрабіць, каб Лукашэнка сфальсіфікаваў выбары ў спосаб не больш чым умераны. Пад адрасам прэзідэнта прагучала прапанова — у лістападзе 2010 года на сустрэчы ў фармаце шэф Міністэрства замежных спраў Германіі Гіда Вестэрвеле, Сікорскі і Лукашэнка ў Мінску. За недасыпванне галасоў у выбарчыя скрыні Беларусь мела б атрымаць дапамогу прыблізна 3 мільярды еўра (не інфармавалі пра крыніцы фінансавання). Калі б Някляеў атрымаў добры вынік, была б магчымасць правесці канстытуцыйную рэформу. У Варшаве пад гэтым дэвізам разумелі ўзмацненне ролі парламента і прэм'ер-міністра, якім мог стаць Някляеў. План не атрымаўся. Лукашэнка ведаў пра пагрозу польска-расійскага кандыдата. Ён ведаў, што страта ўлады ў выпадку пагаднення «пшэкаў» (пагардлівая назва палякаў) з маскалямі гэта пытанне часу. Тыдзень да выбараў дайшоў ён да паразумення з Масквой і выбары сфальсіфікаваў. Апазіцыйныя пратэсты былі жорстка спацыфікаваны. Баланс выбараў у Беларусі быў некарысным у асноўным для Польшчы. Лукашэнка захаваў уладу, апазіцыя была разбіта. Расія мела Лукашэнку асуджанага на яе ласку (ЕС увёў санкцыі ў дачыненні да прэзідэнта), а Польшча страціла свой уплыў на сітуацыю ў Мінску».

Ці такі сцэнар у польскай усходняй палітыцы, асабліва ў адносінах да Беларусі, быў фактычна рэалізаваны, цяжка, верагодна, цяпер пацвердзіць, улічваючы асабліва ненадзейную памяць цяперашняга маршалка Сейма, другой асобы пасля прэзідэнта ў дзяржаве.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Княжае і панскае ЗУБАВА (ч. III)

**Ваенныя лёсы беларусаў запісаныя ў гісторыі мільёнамі забітых і пацярпелых. Ахвярамі Другой сусветнай вайны ў большасці стала цывільнае насельніцтва. І нават на нашым спакойным Падляшшы ваенныя жорны таксама перамалолі дзясяткі тысяч людзей. У большасці выпала нам роля ахвяр, а не пераможцаў. Добра, што выжылі. Адны дзякавалі Богу, другія — савецкай арміі, трэція — польскім камуністам. Усе аднак баяліся адкрыта гаварыць праўду пра саветаў. Толькі пры сямейных ці суседскіх сустрэчах у даверанай кампаніі ўсплывалі ўспаміны пра тых, якія самі паверылі саветам і ўжо адтуль не вярнуліся, або пра тых, якім не паверылі самі саветы і пастараліся іх хутка адправіць у Сібір, або ў безыменную магілу. У выпадку нашага героя з Зубава — Пятра Карпюка і ягонай сям'і — маем дачыненне з другім варыянтам. Сям'я Карпюкоў у міжваенны перыяд не ангажавалася ў аніякую беларускую палітыку. Адзінай іх любоўю была сялянская зямля.**

Пётр Карпюк — у 1941 г. дзевяцігадовы хлапчук — цяпер памаленьку пачынае блытаць некаторыя даты і факты з ваеннай даўніны. Мае на гэта поўнае права, сыходзячы з ягонага ўзросту. Трэба было мне памылкі выпраўляць, звяраць з гістарычнымі крыніцамі. Аднак самае важнае і незабыўнае — гэта вобразы рэальна перажытага на ссылцы ў Алтайскім краю ў Сібіры і ў горадзе Бійск. Інтэрнэтная навігацыя паказала мне, што, едучы на машыне самай кароткай дарогай з Бельска-Падляшскага ў Бійск, адлегласць паміж гарадамі складзе 4797 кіламетраў. Іх вывозілі чыгункай. Колькі кіламетраў мела тая чыгуначная траса, мне дакладна не вядома. Але тады адно было вядомае — у час вайны там канчаўся свет. Далей аніякай чыгункі ўжо не было. Толькі бязмежны Алтайскі край, які па тэрыторыі большы за сённяшнюю Польшчу.

Пра ссылкі зараз у нас шмат ведаў і ўяўленняў. Але тады, раніцай 20 чэрвеня 1941 года, для сям'і Карпюкоў заваліўся ўвесь свет. Бацька Фларыян, забраны ад сям'і ў Беластоцкую турму на расстрэл, цудам выратоўваецца ад смерці, дзякуючы нямецкім самалётам. Нямецкія самалёты ў тым жа часе бамбілі і савецкія эшалоны, таксама з ахвярамі саветаў. Смерць і надзея на выратаванне — у адной секундзе вырашаўся пачатак і канец роду чалавечага. І менавіта гэтыя секунды, мінуты, гадзіны, дні, месяцы, гады — уцёкаў ад смерці і вяртання да жывых — былі наканаванымі зубаўскай сям'і з 1941 па 1946 год. У Бельск-Падляшскі на вакзал энкавэдысты завезлі бабу Марту і дзеда Яна, маці Марыю і дзве старэйшыя сястры Пятра — Марыю і Ліду. Шэсць асоб з сундукамі вопраткі, мукі, крупы, лыжкамі і гаспадарчымі прыладамі. Ну і з пазычаным боханам хлеба. А пазычанае ж трэба аддаць. Мо таму і вярнуліся.

## Голад, голад, холад

— І ў тых вагонах сціск і перапоўненасць. Як толькі рушылі, то людзям самае горшае, што прыйшлося рабіць, то сцаць і ... пад сябе. Тады мацнейшыя мужчыны давай нажом рабіць у кутку дзірку ў падлозе. І павесілі плахту, — гэта першы ўспамін з падарожжа Пятра Карпюка. Другі, які мне распавёў, звязаны, вядома-як дзіцяці, з ядою. — Мы мелі з сабою муку і прас на вугаль. Дык на гэтым прасе мама пякла пляцкі. А трэба было для іх вады. І ўвогуле не было вады. А піць так хацелася. Чакалі, калі пойдзе дождж, і праз дах, калі падаў, падстаўлялі міскі, каб нешта назбіралася. А як выстаўлялі рукі з вагона на двор, калі падаў дождж, то вартавыя адразу па іх стралялі. Помню, што ехалі праз Мінск.



Ну і заязджаем мы ў Бійск, а там машынамі вязуць на пункт, дзе нас размяркоўваюць па далейшых мясцовасцях. Перасяленчым пунктам быў саўгас «Пралетарка», з якога нас далей адправілі ў саўгас «Светлае». З намі былі разам палякі Жэндзяны з Харошчы. Іх было сямёра, а нас шасцёра. У цвёрдай як скала зямлі пазычанымі кіркамі мужчыны зрабілі зямлянку для нашых дзвюх сямей. На зямлю дзед прынёс галінак, накінулі плахту і так спалі. А мароз зімою быў пад пяцьдзясят градусаў, а тады, калі ішлі баі пад Сталінградам, то ў нас і пад шэсцьдзесят было. Ну і для ўсіх быў абавязак працаваць. Я, маючы дзевяць гадоў, працаваў як дарослы мужчына. Памагаў дзеду пры конях і кароўніку. Мама дзеду ў нагавіцах прышыла ўнутры большыя кішэні, каб можна было хоць некалькі жмень аўса прынесці дахаты, каб было што есці. А, напрыклад, для маёй трынаццацігадовай сястры Марысі наклалі абавязак выкасіць касой паўгектара травы ўдзень. Немагчымае гэта для дзяўчынкі. Скажу вам папраўдзе яшчэ адну гісторыю. Маці ўзяла з сабою пашыты перад вайной бацькаў касцюм з думкай пра мяне. «Але пакуль ты дарасцеш да гэтага касцюма, то мы з голаду здохнем», — сказала маці і аддала яго брыгадзіру. За гэта ён параіў маці, калі будзе капаць бульбу, няхай некалькі бульбін пастараецца закапаць у зямлю, каб ніхто не бачыў. А вечарам, калі не было старшыні саўгаса, ён пільнаваў маці, каб тая адкапала тыя бульбіны і прынесла іх дахаты. А соль да бульбы прыдбала бабуля, якая працавала пры цялятах. У цялятніку былі брыкеты солі і ёй раз на нейкі час удавалася незаўважна нажом наскрэбці крыху солі ў хустачку і прынесці. О так жылося. Памерлі б мы там, калі б не Сікорскі. І нам дазволілі пераехаць у Бійск. Трапілі мы да гаспадыні, якая кіравала скупкай гародніны і садавіны. Там час ад часу за працадні мы маглі атрымаць гнілаватую моркву, буракі. Якая ад гэтага была радасць! Было што з'есці!

Пасля маці ўладкавалася на працу ў пякарню і не вытрымала. Дзеці ж галодныя — адрэзала адну лусту хлеба і прывязала да сцягна. А там кантроль і кантроль. І яе злавілі. Ад смерці выратавалі бацькавы боты, якія аддала сторажу. У тым часе я развозіў канём тавары, таксама і муку вазіў. А там усе кралі: дырэктар, брыгадзір, сторож. А я муку важу і важу. А тут хлеба няма. Маці не мае з чаго ў пякарні пячы, а абвінавацяць яе. Але лёс і тут усміхнуўся. Кладаўшчык, ідучы на працу, раптоўна памёр ад разрыву сэрца. І ўсю віну за нястачы на яго ўсклалі. Тады маці ходу з пякарні. Пайшла працаваць на мясакамбінат. Там была труба, якою ў вялікую яму вылівалі ўсе звярыныя нечыстоты. І там маці час ад часу ўкідвала кавалачкі мяса, а я спецыяльнымі кручкамі вылоўліваў іх. Нават доўга памыўшы іх і зварыўшы усё-такі аддавала гаўном. Але было хоць што-небудзь з'есці.

У 1943 г. была гэтак званая акцыя пашпартызацыі. Усіх ссыльных ізноў пачалі прымушаць прыняць пашпарты і савецкае грамадзянства ды зрачыся польскага. Усю нашу сям'ю бралі, нават сядзелі некалькі месяцаў за кратамі за тое. Але не прынялі мы савецкага грамадзянства. Можа таму ў красавіку 1946 г. маме, мне і сёстрам удалося хутчэй вярнуцца з гэтага зямнога пекла. Наш транспарт везла Ванда Васілеўская. То яна бля... Сікорскага «сплавіла». А потым з Варшавы ў Маскву ўцякла.

## Кастыцэвічы - Астасевічы - Геніюшы - Ярузельскія

Чэрвеньскі транспарт 1941 г. і спіс ссыльных павінен быць дакладна даследаваны нашымі беларускімі гісторыкамі з Беласточчыны. Менавіта ў гэты транспарт ці ўжо папярэдні майскі, было ўключана вельмі многа мясцовых беларусаў, вывезеных разам з тутэйшымі палякамі. Шмат у гэтым транспарце было і бельскіх жыдоў. Палякі пра сваіх памятаюць і даследуюць справу. Нам трэба таксама вярнуць імёны і прозвішчы тых усіх ссыльных беларусаў — ад інтэлігенцыі па сялян. Месца ссылкі гэтага транспарту — Алтайскі край, ваколіцы Бійска. Архівы НКВД і іншых устаноў гэтага горада павінны быць у полі зроку падляшскіх даследчыкаў. Варта наладзіць кантакты з сібірскім аддзяленнем рускай арганізацыі «Мемарыял», якая даволі грунтоўна займаецца архівамі і спісамі рэпрэсаваных ахвяр у Алтайскім краі. Трэба аднак спяшацца, бо паводле заяў цяперашніх расейскіх улад, працу гэтай заслужанай арганізацыі для раскрыцця злачынстваў сталінізму пуцінская чыноўнікі хочуць ліквідаваць. Пад бокам у Беластоку маем Інстытут нацыянальнай памяці, а дэпартацыі на Усход гэта ж іхні канёк. У нас трэба згадаць сабраныя ўжо Дарафеем Фіёнікам успаміны вывезеных у Бійск гэтым апошнім ссыльным транспартам, між іншым, агульнавядомых і шанаваных сем'яў Яраслава Кастыцэвіча з Бельска ці Астасевічаў са Шчытоў. Дэпартаваныя былі іншыя беларускія сем'і — Багінскія з Агароднікаў, людзі з Кошак, Райска. Як прыгадваюць некаторыя ссыльныя, запісаныя Дарафеем Фіёнікам, увесь эшалон меў сто вагонаў! Таму і запамяталіся дзецюку Пятру Карпюку тры аграмадныя лакаматывы, што цягнулі ўвесь састаў. Колькі ж людзей з гэтага падляшскага транспарту засталося навекі ў халоднай сібірскай зямлі? Напэўна з нашага боку належыцца ім усім памяць, уключна з духоўным паломніцтвам і малітвай «За вечны спакой». Ну і ўскладненнем сімвалічных вянкоў ад беларусаў Беласточчыны загінулым там продкам. Учытваючыся ў бійскія гісторыі, адшукаў я, што бацька Ларысы Геніюш — беларус і землеўладальнік Антон Міклашэвіч, народжаны ў 1882 г. у нашых Крынках, арыштаваны ўжо ў кастрычніку 1939 г. і абвінавачаны ў антысавецкай дзейнасці, у сакавіку 1941 г. асуджаны быў на пяць гадоў лагеру. Амніставаны як польскі грамадзянін пасля падпісання дамовы паміж польскім прэм'ер-міністрам у замежжы генералам Уладзіславам Сікорскім і савецкім пасло у Лондане Іванам Майскім ад 30 ліпеня 1941г., быў накіраваны для пражывання ў... Бійск Алтайскага краю. На жаль, далейшы ягоны лёс невядомы.

Самае важнае з дамовы Сікорскі-Майскі для ўсіх вязняў ГУЛАГу, прысуджаных да турэмнага зняволення ці дэпартаваных, было тое, што Савецкі Саюз усім грамадзянам Польшчы ў межах з 1939 г. гарантаваў амністыю.

— Мы ўсе маліліся за Сікорскага. Няхай Бог мае яго ў сваёй апецы. Забілі чалавека бля..., — распавядае Пётр Карпюк. — Калі б не ён, то ўсе вывезеныя здохлі б як мухі ў гэтых сібірскіх маразах. А так то хоць многія выжылі.

Дзякуючы гэтай дамове ў Бійск трапляе і сям'я нядаўна памерлага генерала Войцеха Ярузельскага. Так склалася, што сям'я Ярузельскіх у Бійску стала праз дом суседзямі... нашых Карпюкоў з Зубава. Сялянскія «паны» Карпюкі з сапраўднымі панамі-памешчыкамі Ярузельскімі ў бядзе і паніжэнні зведалі савецкі рай. Бацька Войцеха, легіянер, што біў саветаў Уладзіслаў Мечыслаў разам працаваў з дзедам малалетняга Пятра, Янам Карпюком. І не толькі разам працавалі, але і звычайна наведвалі адзін аднаго. А маладая дзяўчына Марыя Карпюк была сяброўкай сястры Войцеха — Тэрэзы.

У чэрвені 1942 г. памірае сеньёр Ярузельскі. Пахаваны на Зарэчанскіх могілках. Праз год, у 1943 г., ад голаду памрэ і Ян Карпюк. А ў 1946 г. перад самім ад'ездам на вечны спачын з-за малярыі адыдзе і бабуля Марта Карпюк.

У адным з інтэрв'ю для расейскай прэсы так камуністычны генерал, аўтар ваеннага становішча ў Польшчы, гаворыць: „У нас былі цяжкасці з тым, каб перавезці яго праз увесь горад на праваслаўныя могілкі. Каталіцкіх не было. Мы з сястрой там яго пахавалі і паставілі на тым месцы бярозавы крыж. (...) А пасля многіх гадоў я даведаўся, што па даручэнню Міхаіла Гарбачова, там зроблены звычайны помнік. І адначасна — гэта доказ палітычнага розуму — побач быў пастаўлены яшчэ адзін помнік большых памераў, прысвечаны польскім ссыльным у Алтайскі край Сібіры ў 1939-1945 гадах».

У 2005 г., калі пуцінская Расія арганізавала пампезныя святкаванні 60-й гадавіны з Дня перамогі, на якія быў запрошаны і генерал Ярузельскі, Уладзімір Уладзіміравіч Пуцін для свайго вернага прыхільніка поўнасцю забяспечыў паездку ў Бійск на магілу свайго бацькі.

## Замест эпілога

Пасля вяртання ў народную Польшчу і роднае Зубава не надта спакойнымі былі наступныя гады для сям'і Карпюкоў на родным Дворыску. Хаця разам, але ў нервах. Зубаўцы першымі ў ваяводстве заснавалі калгас. Туды, аднак, нягледзячы на намовы, Фларыян і Марыя Карпюкі не збіраліся. Зноў сталі іх называць кулакамі і ворагамі народа. Свая ўлада паслала тады маладога Пятра адбудоўваць краіну ў батальёнах «Служба Польшчы» ў Граева, а потым на дадатак адразу ў армію. А сам гаспадар яшчэ два разы «наведаў» на некалькі месяцаў беластоцкую турму за незаплачаныя аграмадныя падаткі. Паны з Дворыска так любілі і шкадавалі сваю зямлю.

**Тэкст і фота Яўгена ВАПЫ**

## Нашыя вясковыя святліцы прыгажэюць

У Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) жыхары палавіны ўсіх вёсак маюць святліцы. У некаторых з іх, між іншым, у Нараўцы, Старым Ляўкове, Семяноўцы і ў Міхнаўцы бурліць культурнае жыццё. Мерапрыемствы найчасцей адбываюцца там, дзе працуюць штатныя святліцовыя ды бібліятэкаркі (бібліятэкі працуюць у святліцах у Семяноўцы і ў Старым Ляўкове) і там, дзе ад пару гадоў працуе Таварыства „Ятрышнік" або дзейнічаюць актыўныя радныя, солтысы ды і самі жыхары. Пра іх мы неаднойчы пісалі ў „Ніве".

Найбольш цікавых культурна-асветных і забаўляльных імпрэзаў ды вясковых сходаў адбываецца ў Нараўцы і Старым Ляўкове. У Міхнаўцы найбольш іх вясной, восенню ды ў перыяд навагодніх святкаванняў. У Семяноўцы сёлета святкуюць 380-годдзе вёскі. Тут ужо было некалькі мерапрыемстваў, прымеркаваных да гэтага юбілею (апошняе — 25 кастрычніка г.г.).

Зараз прыгожа выглядаюць адноўленыя святліцы ў Нараўцы, Альхоўцы і ў Семяноўцы. У самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове ў пачатку кастрычніка гэтага года закончылі рамонт — праклалі новую электраўстаноўку, памалявалі сцены і столь, падключылі кандыцыянер. Ёсць тут сцэна, тэлевізар, малая кухня і кухонная пасуда, а таксама туалеты. У вялікім зале паставілі сем новых сталоў і 42 новыя крэслы. Нядаўна стараляўкоўская святліца атрымала дзесяць пар лыжаў і ботаў ды шэсць веласіпедаў.

Прыгожыя г.зв. дамы культуры маюць жыхары ў Заблотчыне, Міхнаўцы (тут ёсць хлебная печ, камінак, халадзільнік і прыбіральня) і ў Плянце. Іх грунтоўна мадэрнізавалі. Сёлета аднавілі святліцы ў Гушчэвіне (у ёй уставілі новыя вокны і дзверы) і ў Міклашэве (у ёй абшалявалі сцены, памянялі вокны, яшчэ адрамантуюць падлогу ў сенцах, падключаць ваду з крана і будзе яна мець прыбіральню).

Зараз рамантуюць святліцу ў Тарнаполі (тут яе абшалявалі, зрабілі новыя падлогі і яшчэ памалююць сцены і столь). Яна будзе абгароджаная. У святліцу ў Баб'яй Гары падключылі вадаправод і каналізацыю. Ёсць камінак, пры якім цёпла ў асенне-зімні перыяд. Святліцу ў Старым Масеве накрыюць бляхай, памяняюць вокны і падлогу, усярэдзіне памалююць сцены. У масеўскую святліцу прывязуць столікі і крэслы. Будуць рамантаваць святліцу ў Ахрымах, у якой завёўся г.зв. грыб. Новую святліцу атрымаюць жыхары Скупава ў будынку былой кааператыўнай крамы.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**




# Пявучыя сем'і



Сям'я Васькоўскіх

**Выканаўцы ў трох катэгорыях: да 16 гадоў (дуэты і большыя групы), старэйшыя за 16 гадоў (дуэты і большыя групы) і розных узростаў (дуэты, трыо і большыя групы сем'яў, у 2-, 3- і больш пакаленняў) прынялі ўдзел у першым выданні мерапрыемства «Пявучыя сем'і», арганізаванага Беларускім грамадска-культурным таварыствам сумесна з Таварыствам беларускай культуры, дамамі і цэнтрамі культуры ды дзіцячымі садамі і школамі розных узроўняў Беласточчыны.**

Агляд адбыўся дзень пасля (26 кастрычніка) дваццаць першага выдання фестывалю «Беласток-Гродна», які прайшоў сёлета на беларускім баку. У ім прынялі ўдзел калектывы, звязаныя з БГКТ (не было на ім ані аднаго прадстаўніка ўлад горада Беластока). Сярод выканаўцаў на гродзенскім мерапрыемстве выступіла журналістка Радыё Беласток Анна Пятроўская і яе сёстры з «Сямейнага трыо» з Макаўкі. Дзень пазней яны выступілі таксама на беластоцкім фестывалі. Перад выступам у сядзібе БГКТ Анна сказала «Ніве» пра свае ўражанні, якія прывезла папярэдняй ноччу з Гродна:

— Упершыню на фестывалі ў Гродне была я восем гадоў таму. Іншая справа выступаць у Беластоку, у амфітэатры, а іншая — у Драматычным тэатры, дзе адчуваеш, што больш цэнішся. Усё на гродзенскім фестывалі было дапрацавана, адрэпетавана, калектывы не збіваліся. Усе стараліся. Адчувалася шчырая дружба паміж польскімі калектывамі з Беларусі і беларускімі ад нас.

Згодна з рэгламентам, мэта конкурсу «Пявучыя сем'і» — «развіццё і папулярызацыя беларускай культуры, фарміраванне і прасоўванне беларускай нацыянальнай самасвядомасці, умацаванне сямейных сувязяў праз песню, вылучэнне таленавітых асоб». Канкурсанты выканалі па дзве песні, вядома, на беларускай мове. Выканаўцаў ацэньвала камісія з трох асоб, якая назначала ім ад аднаго да шасці балаў, беручы пад увагу выбар рэпертуару, вакальныя ўмовы і агульны мастацкі выраз. Камісію ўзначальвала апякунка хароў Гражына Валкавыцкая-Тамашук:

— Гэта першае выданне конкурсу і мы, як журы, таксама перажываем. Вельмі файна, калі на сцэне самы малады выканаўца і найстарэйшы ў сям'і, і што на розных урачыстасцях і конкурсах яны хочуць спяваць усёй сям'ёй. На Беласточчыне ў беларускіх сем'ях супольны спеў даглядаюць, што можна ўбачыць да гэтага часу на аглядзе «Гвязда і калядка» ці фестывалі «Беларуская песня», дзе часта выступаюць сем'і ў некаторых ансамблях або харах.

Член журы, музыкантка, звязаная з царкоўнымі харамі Іаанна Аўгустынчук:

— На нашым фестывалі відаць, што беларуская песня не памірае, перадаецца з пакалення ў пакаленне, што традыцыя не мае канца. Калі песні выконваюцца разам з нагоды святаў, значыць, што яны жывыя.

Ініцыятаркай фестывалю была сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Валянціна Ласкевіч. Намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень, адкрываючы конкурс, падкрэсліў:

— На сцэне выступяць розныя пакаленні нашых, тутэйшых беларусаў, для якіх беларуская песня, беларуская культура з'яўляецца вельмі важнай і займае вельмі важнае месца ў іх сэрцы. Я асабліва хачу падзякаваць найстарэйшым выканаўцам, якія сваім дзецям і нават унукам перадаюць любоў да роднага, да роднага слова, песні.

Сярод выступаючых апынулася Ірэна Віламоўская з малодшым сынам Крыштафорам і старэйшым Тамашом, якія жывуць у Курашаве Чыжоўскай гміны. Сказала яна «Ніве»:

— Кожны дзень мы спяваем ва ўзніклым два гады таму гурце «Верасы». Адзін з сыноў іграе на гітары, другі — тамбурыніст. У мяне яшчэ два сыны, але яны не хацелі прыехаць. Мы спяваем пры кожнай магчымай нагодзе, а таксама ў царкоўным хоры.

Сыны дадалі:

— Вядома, мы спяваем з нагоды святаў, напрыклад, калядкі на Каляды, але і ў любы вольны час, асабліва ў летні, калі разводзім вогнішчы. Тады, часта да раніцы, сядзім пры іх і спяваем сабе ўсё, што хочам. На фестывалі выканалі мы «Ой, ляцелі гусі з броду» і «Бабка Еўка».

Сын Тамаш:

— «Бабка Еўка» гэта вясёлая песня, з жартам. А «Ой, ляцелі....» паказвае больш нашы магчымасці — мы падрыхтавалі яе для трох галасоў і можна пачуць у ёй прыгажосць беларушчыны, у якой усе ліецца так ад душы.

Магда Якімюк з Навасад, якой усяго некалькі гадоў, выступіла з бабуляй і трыма цёцямі:

— Выступаю ў конкурсе, таму што я проста люблю спяваць. Дома зачаста не спяваем разам, але хочам.

Спадарыня Міраіда, маці сясцёр Садоўскіх з Макаўкі:

— У маёй сям'і мы спяваем разам: я, мае дзеці і ўнукі, калі толькі можам. Збіраемся ў хаце. Перш за ўсё вывучаем тэкст. Практыкуем свае галасы. Песні «Ляцела зязюля» і «Чырвоная вішня», што мы падрыхтавалі для сённяшняга конкурсу, спявала мая мама. Супольным спевам мы стараемся трымаць сямейную беларускую традыцыю, сваю культуру.

Сям'я Харужых з Беластока выступіла ў сем асоб. Сара Харужая, жонка Марыюша Харужага, перад выступам жартавала:

— Так як я, так і мой муж — з калектыву «Калінка», такім чынам нашы дзеці не маюць выбару і яны павінны спяваць. Такі конкурс добры, таму што нашы дзеці могуць убачыць як выступаць на сцэне.


Сям'я Харужых



Сёстры Пятроўскія

Люба Гаўрылюк з Козлікаў ужо не першы раз на імпрэзе БГКТ з дачкой Алай Каменскай:

— Нішто так не аб'ядноўвае, як песня, таксама і сем'і. Таму я сваіх дзяцей прыводзіла на беларускія мерапрыемствы ў БГКТ з пялюшак. Яны да гэтага часу маюць да спеву цягу, і выступаюць ужо тры нашы пакаленні. Ціха спадзяюся, што дажыву таго, што будуць выступаць чатыры пакаленні. У мяне ёсць праўнук, якому год, і ўжо відаць, што ён мае душу артыста!

Анна Бабік, вядучая фестываль, сказала «Ніве»:

— Сям'я — самае каштоўнае, што ёсць у чалавека, а прытым тут, на фестывалі, можна на роднай мове паспяваць разам. Ці ёсць што-небудзь больш прыемнае? Як на першы такі конкурс дваццаць запісаў гэта вельмі шмат. На іншых конкурсах, якія арганізуюцца ў першы раз, так многа выканаўцаў няма. Людзі спачатку хутчэй назіраюць, як гэта будзе. Аказваецца ўжо пасля першага выдання конкурсу, што на Беласточчыне вельмі шмат спявучых сем'яў.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# На ратунак школе




У канцы Целушок з боку Пухлаў стаіць вялікі, драўляны будынак. Пра яго існаванне ведаюць толькі жыхары наваколля. Доступу туды сцерагуць высокія да самага неба дрэвы і буйныя кусты. Няма лепшага месца, каб у цішыні і спакоі, здалёк ад бацькоўскіх вачэй, выпіць пляшку гарэлкі ці закурыць кантрабандную папяросу. Што яшчэ, акрамя пабітых бутэлек і акуркаў можна там знайсці? Старамодныя вучнёўскія парты і разваленыя печкі маленькіх настаўніцкіх пакойчыкаў на паддашку.

Будынак супольнымі сіламі і сваім коштам паставіла мясцовае насельніцтва яшчэ пры Пілсудскім. Так узнікла ўстанова выхавання і адукацыі некалькіх пакаленняў целушкоўцаў. Яе дзейнасць спынілася ў 1977 годзе.



На шчасце ёсць яшчэ людзі, якім лёс колішняй школы неабыякавы. У іх ліку Міраслаў Каравай — ураджэнец Целушок, моцна звязаны з родным месцам, мовай і традыцыямі. Гэты незвычайны аптыміст, каб звярнуць увагу грамадства на запушчаны школьны будынак, у яго сценах наладзіў вясковы пікнік.

— Тут я таксама вучыўся, — кажа Міраслаў Каравай. — Настаўнікамі былі тады, між іншым, Калішовая, Бароўскія. Іх ужо няма, але яны засталіся ў маёй памяці. Працаваў тут таксама пан Матвяюк, які пісаў у „Ніву". Трымаў модны тады матацыкл „Юнак" і лодку. Бывала, хлопцы ўкрадуць лодку, а ён усіх са школы звальняе, каб мы яе шукалі. У тым акне, — паказвае мой суразмоўца, — праходзілі ўрокі польскай мовы. Помню, быццам сёння: *мяновнік — хто, што — куонь, допэлняч — кого чэго — няма куоня*. Альбо чытаем: ***Kiedy będę daleko w skwarze, będę tęsknił za tobą.*** „Ці ўсе словы вам зразумелыя?" — пытае настаўнік. „А што гэта такое ***w skwarze?***" — цікавіцца вучань. „А ведаеш ты як на патэльні шкварка скварчыт?" — адказвае яму пан Матвяюк.





— Такія гісторыі. Усё роўна мы навучыліся добра гаварыць па-польску. Гэта феномен, але мы вывучыліся, — прызнаецца спадар Каравай.




Удзел у вясковым мерапрыемстве прыняў, між іншым, знаток генеалогіі Марк Карнілюк. На сценах школы можна было паглядзець экспазіцыю старых, адшуканых ім здымкаў.

— Усіх іх маю ўжо некалькі тысяч, — кажа калекцыянер. — Тут паказваю толькі невялікую частку, у асноўным прысвечаную гэтай школе. Найстарэйшыя паходзяць з 1915 года. Ёсць таксама здымак школы з 1935 года. А тут вясковы спектакль з гарманістам Толікам Мацеевым і рэдкі від вяскоўцаў, адпачываючых над Нарвай у 1949 годзе. Гэты палатняны фон характэрны для фатаграфічнай майстэрні Юзафа Янушкевіча з Войшак, які здымаў у 1945-1952 гадах. Побач са здымкамі, між іншым, спісак важнейшых вясковых падзей і прозвішчы сялян. Настарэйшыя запіскі паходзяць з 1843 года, — інфармуе спадар Карнілюк.



З Гістарычнага архіва ў Вільні прывезла іх і пераклала на польскую мову Ева Валінская. Гэта ўсё надта цікавае. Для прыкладу, у спіску гаспадароў з 1945 года ёсць восем сямействаў Карнілюкоў, а пасля Другой сусветнай вайны няма ўжо ніводнага. Што з імі сталася? Нідзе яны не прапалі, толькі прозвішчы сабе памянялі. Гэта адбывалася няраз. На прыкладзе гісторыі аднаго роду можна дашукацца дзвюх-трох такіх замен. З Карнілюкоў пераходзілі на Максімюкоў, Леванюкоў ці Андраюкоў, бо быў якраз нейкі Максім, Лявон ці Андрэй у сям'і. У тым заключаюцца складанасці з пошукам продкаў.

— Вельмі файнае мерапрыемства, — хваляць зацікаўленыя здымкамі целушкоўцы, — павінны часцей у нас такое арганізаваць.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Дзень сеніёра ў Чаромсе

Святкаванне Дня сеніёра — цыклічная імпрэза гміннага самаўрада. Такое мерапрыемства адбылося 18 кастрычніка ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе. За пачастунак і мастацкую частку паклапаціліся працаўнікі Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі на чале з яго кіраўніком Марыяй Зіневіч. А сёлетнія святкаванні праходзілі з належнай павагай і прызнаннем для юбіляраў.

— Дзень сеніёра — выключны сімвал памяці і ўдзячнасці для людзей, якія нарадзіліся ў мінулым стагоддзі, — гаварыў у прамове войт Юры Шыкула. — Яны ведаюць смак працы, спазналі час боязі за сябе, блізкіх і сям'ю, часта спазнавалі нястачы. Нягледзячы на гэты досвед, здзейснілі незвычайныя рэчы. Стварылі нанава, выхоўвалі новыя пакаленні, гарантавалі сваім дзецям, унукам ды праўнукам пачуццё сэнсу і пэўнасці, а жыццё дастаўляла і дастаўляе ім шмат радасці. За гэты гераізм штодзённых будняў належацца ім асаблівыя словы прызнання. З нагоды Дня сеніёра ад імені ўласнага, працаўнікоў гміннай управы і Рады гміны віншую ўсіх сеніёраў і жадаю ім шмат здароўя і самых лепшых поспехаў, жадаю, каб заўжды захоўвалі пагоду духа і ўсмешку на твары, каб чарговым гадам і дням спадарожнічалі здароўе і пашана людзей. Я ўпэўнены, — канстатаваў у завяршальным слове войт Юры Шыкула, — што ў атмасферы годнасці і пашаны будзеце, паважаныя сеніёры, працягваць высакародную працу свайго жыцця.

Адпаведную сітуацыі прамову сказаў настаяцель Кляшчэлеўскага прыхода а. мітрат Мікалай Келбашэўскі, затым віншаванні перадалі старшыня Рады павета Мікалай Міхалюк і ўпаўнаважаны Раённага аддзялення Саюза польскіх пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе Мікалай Кердалевіч. Пачалася мастацкая частка. Першым выступіў духавы аркестр пад кіраўніцтвам Мікалая Гарадкевіча, які выканаў некалькі папулярных мелодый. Затым выступіла „Калінка" пад кіраўніцтвам Марыюша Харужага з Беластока. Каляровыя нацыянальныя ўборы, званкія дзявочыя галасы і цудоўныя беларускія песні заваражылі публіку. Пасля кожнага нумара не сціхалі бурныя апладысменты. А калі лідар гурту Марыюш Харужы аб'явіў апошнюю песню, у зале загрымеў вокліч „біс". Артысты ў знак удзячнасці за сардэчны прыём публікі выканалі яшчэ дзве песні. „Калінка" саступіла месца на сцэне музычнаму гурту „Метро". Пачалося святочнае застолле пад гукі народных напераменку беларускіх, польскіх і ўкраінскіх мелодый. Музыканты не ленаваліся, не давалі перадышкі танцорам. Толькі час ад часу рабілі кароткі перапынак для пачастунку. А гэты быў сапраўды багаты. Усяго было ўдосталь, апрача шампанскага. Але за своеасаблівы напітак „для духу" паклапаціліся самі ўдзельнікі. У зале царыла сімпатычная, сяброўская атмасфера. І было шмат песень у сольным выкананні Раісы Баярунец і Надзеі Саласцюк. А пасля ўсе разам спявалі. І так было да канца забавы. А разыходзіліся вечарком пасля дваццатай гадзіны, пры поцемках. За транспарт пахадайнічаў войт гміны. Сёлетнюю бяседу з нагоды Дня сеніёра лічу ўдалай. За гэта арганізатарам належацца словы прызнання.

**Уладзімір СІДАРУК**



зорка
для дзяцей і моладзі
Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Залукі: гульня на пяці мовах свету

Вучні Гімназіі ў Гарадку, супольна з Непублічнай школай у Залуках, наладзілі Дзень еўрапейскіх моў. На аднаўленым калідоры маленькай школы, ля самай мяжы з Беларуссю, прагучала пяць моў. Дзеткі спявалі і выступалі са сцэнкамі па-беларуску, па-англійску, па-французску, па-нямецку і па-польску. Былі і скорагаворкі, і песні, і вершы. Галоўным чынам трэба было паказаць важнасць вывучэння розных моў. Рэперы з Залук (Мішка Вaraновіч і Бартэк Дзярманскі) праспявалі, што цяпер трэба ведаць англійскую мову. Я дадам, што трэба ведаць і ўсходнія мовы, тады няма нам ніякіх абмежаванняў у падарожжах, а таксама ў будучай працы. І найперш трэба вывучаць беларускую мову, мову нашых дзядоў і продкаў. Дзякуючы ёй здзейсняцца нашы планы і мары пра падарожжы і працу. Бо родная мова адчыняе нас на сапраўдныя пачуцці і дапамагае ў развіцці і адукацыі.



# У БЕЛАСТОЦКАЙ ГІМНАЗІІ № 7

наладзілі сустрэчу з вядомым тэлежурналістам Міколам Ваўранюком. Моладзь паглядзела яго навейшы фільм „Гавораць беларусы Падляшша". У фільме пераплятаюцца кадры са спектакля „Ой даўно, даўно", выступаюць акцёры і іх героі. У якасці акцёраў — выпускнікі гімназіі, дзяўчаты і хлопцы, якія разам з настаўніцай Алінай Ваўранюк паставілі спектакль і паказалі яго ў многіх вёсках і мястэчках Падляшша, у Варшаве а нават у Нью-Йорку.

Настрой фільма невыпадкова сямейны, паколькі моладзь размаўляе са сваімі бабулямі і сваякамі, які падарылі ім свае жыццёвыя гісторыі для спектакля. Усіх спалучае родная мова. Яна тут „не дадатковы прадмет у школе", а сямейны сродак паразумення і любові.

Для нашай моладзі, якая ў сваёй масе ўжо не карыстаецца мовай продкаў, фільм Міколы Ваўранюка можа прамовіць як пазітыўны прыклад і інспірацыя...

Сустрэчу падрыхтавала Альжбета Руткоўская, настаўніца беларускай мовы ў Гімназіі № 7.

З-ка



*Сымон КАСПЯРОВІЧ,*
*Юшкаў Груд, школа ў Міхалове*

## Буркун

Буркун бурчыць:
Што ўжо час,
Што ў калюжыну ўлез,
Што не любіць бурчэць.
Бурчыць, што аж жах!
Трэба ўцякаць!

*Магда КЛІМОВІЧ,*
*Баршчэва, школа ў Міхалове*

## Згублены вожык

Жыў-быў у лесе малы вожык.
Паблытаў дарожку ў лесе.
І не ведае, кудою ісці дахаты.
Сядзіць і бядуе,
Крыку матулі не чуе!

**Загадкі з роднай хаткі**

# Увага, конкурс!!! (№ 44-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 16 лістапада, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**
Што гэта за загадка,
Прашу адгадаць:
Пад латкаю латка
І швоў не відаць
(к....)
(Ніл Гілевіч)

**2.**
Такая пекная кабета
Зацвітае ў канцы лета.
Да марозаў не загіне.
А завуць яе...
(в.......)
(Н. А. Сторажава)

**3.**
Над лугамі, над палямі,
Плачуць доўгімі слязамі.
Бульба, травы і жыты
Часта слёз чакаюць тых.
(д....)
(Міхась Пазнякоў)

**Адказ на загадкі № 41-14: дзяцел, вавёрка, дуб.
Узнагароду, кампакт-дыск Юрыя Несцярэнкі „Аэрапланы ў вырай", выйграла Іаанна Нікіцюк з КШ імя Яраслава Касцыэвіча ў Бельску-Падляшскім.**

# Візіт у нараўчанскай прабабкі Сары

*(пачатак у 42 н-ры)*

— Помнік прабабкі Сары дзесьці знік і ніхто з нашай сям'і доўга не ведаў дзе знаходзіцца месца яе спачыну, — пачала пані Роза. — Мы шукалі магілы па ўсёй Еўропе. Але дапамог нам адзін добры чалавек. Ён рамантаваў стары дом, які належаў яго продкам. І знайшоў гэтую пліту — мацэву. На ёй прачыталі, што помнік належаў нашай прабабцы. Пліту пачысцілі і прывезлі на могілкі. Зараз мы можам прыязджаць да яе.

— А ўсе гэтыя іншыя пліты, — пацікавілася дзяўчынка, — ці яны таксама належалі людзям?

— Так, так. На многіх плітках размаляваныя нейкія прадметы. Яны распавядаюць, які быў нябожчык і чым праславіўся пры жыцці.

Спадарыня Роза дабыла са сваёй элегантнай сумкі камень і падала дачушцы ў рукі.

— Пакладзі гэты каменьчык на плітку прабабкі!

Добра-добра... Але што гэта абазначае? Навошта мне класці гэты камень?

— Глянь на іншыя пліткі, — звярнула ўвагу маці, — бачыш, яны тут усюды. Усе так робяць, гэта старая традыцыя.



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Маці паясніла Тані, што яўрэі не ставяць на магілы знічак, толькі прыносяць каменьчык і кладуць яго на мацэву.

— Гэта абазначае, што нехта памятае пра чалавека, — дадала спадарыня Роза.

Яны яшчэ крыху пастаялі, а пасля вярнуліся ў машыну і паехалі ў свой бок.

З таго часу Таня ўсё пытае і пытае маці пра прабабку Сару і пра гісторыю іхняй сям'і. Ёй цікава, дзякуючы якім людзям яна сама прыйшла на гэты свет. І што дзесьці ў іх па дарозе была такая прыгожая мясціна як Нараўка.

**Эва Аўярчук, Оля Зінкевіч (Гімназія ў Бельску-Падляшскім), Уля Марчук (Гімназія ў Нараўцы), Габрыся Торка, Оля Салавянюк (НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку)**

*Апавяданне ўзнікла на Сустрэчах „Зоркі" пасля візіту на кіркуце ў Нараўцы.*

# Трыццаты дзень

**(таджыкская казка)**

Даўным-даўно ў адной краіне быў-жыў жахлівы хан. Усе яго ненавідзелі і баяліся. Гэты хан часта адзяваў просты жупан і выходзіў на горад. Ён хацеў ведаць што пра яго кажуць людзі. Аднак усе яго распазнавалі і баяліся што-небудзь дрэннага сказаць.

Аднойчы вечарам выйшаў ён на вуліцы горада. Там сустрэў маладзёна і пачаў пытаць:

— Добры дружа, скажы як завецца ваш горад, хто ў вас хан? Я прыйшоў здалёк, нікога не ведаю, не знаю...



Малюнак Агнешкі Петручук са школы ў Нарве



Хлапец не распазнаў хана. Ён махнуў рукой і сказаў:

— Пра нашага хана вы лепш не пытайце! Гэта вельмі дрэнны і жахлівы чалавек. Усе яго баяцца.

— Ваш хан жахлівы чалавек? — крыкнуў хан. — А ведаеш дурань, хто я? Я сам той ваш паганы хан! Гавары хутка, чый такі будзеш?

— Я? — маладзён спачатку злякаўся, але хутка апанаваў нервы і кажа: — Ці бачыце гэты дом?

— Бачу, не сляпы ж...

— Вось, добра, — ужо спакойна талкаваў хлапец, — у ім жыве адзін багаты купец.

— Ведаю, гавары хутчэй!

— У гэтага купца тры сыны: два разумныя а трэці — дваццаць дзевяць дзён разумны, а на трыццаты дзень — дурань. Я трэці сын, а сёння якраз трыццаты дзень месяца! — адказаў хлапец.

Хану так спадабаўся яго адказ, што ён адпусціў хлапца.

**(Пераклад з рускай мовы ГАННЫ КАНДРАЦЮК)**

# Вершы Віктара Шведа

## Разлік

Тату запытаў Сярожа:
— Дваццаць злотых
даць мне можаш?
— Не магу іх даць сынок,
Пусты маю кашалёк.

— Дзіўным мне здаецца гэта,
Бацькі хочуць нажыць дзетак,
Ды заўсёды яны абдалы
Каб усім не каштавала.

## Бяры прыклад з таты

— Табе не сорамна, Коля,
Дрэнна паводзіць сябе ў школе?
Бяры прыклад
з свайго таты.
— Тата ж наш сядзіць
за кратай.

— Дык яго абавязкова
Звальняюць датэрмінова.
За добрыя паводзіны
Будзе ўзнагароджаны.

## Ці добрая падзяка?

Ішла ў горад з унукам
Старэнькая жанчына.
Шафёр спыніў іх мукі
Падвёз сваёй машынай.

Шчаслівая да болю
Падзякавала славамі:
— Дай Божа, каб ніколі
Ты не хадзіў нагамі.

## Уцёк ад марозу

Матуля пытае:
— Адкуль бяжыш сынок?
— Ад марозу ўцякаю.
— І сапраўды ўцёк?

— Уцёк я, мама,
Удалося, павер,
І мароз таксама —
Мне горача цяпер.

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 41:

Пагоня, маг, цуд, лыка, шарж, ар, ты, сі, шопінг, мак, нырка. Цаца, шар, гурток, джып, Іна, галосны, ігра, Ніка, арамат.

**Узнагароду,** ***сшыткі з беларускім арнаментам і алфавітам,*** выйгралі **Мальвіна Маркевіч, Юлія Календа, Дамініка Календа, Оля Дзевятоўская, Юлія Скарбіловіч, Магда Рошчанка, Іаанна Нікіцюк, Нэля Паўлючук, Кацярына Лаўрашук, Габрыела Швядко, Бэата Зенцюк, Мартына Андрушка, Магда Рошчанка, Мілена Каласоўская** з Бельска-Падляшскага, **Малгажата Галёнка, Зузанна Мішчук** з Арэшкава, **Кая Стоцкая, Эля Касцюкевіч, Гося Бочак, Віялета Байко, Наталля Госцік, Кася Харкевіч, Іза Гельман** з Міхалова, **Матэвуш Сікора, Матэвуш Тарасевіч** з Міхалова, **Оля Пугацэвіч** з Беластока. Віншуем!

№ 44

Oczy
Hop!
Gigant
Jak
Borówka
Gitara
Ganek
Plaża
Georginie
Książka
Jan
Pacan
Itaka
Okno
Wzrost
Pepek
Mapa
As
Plot
As
Most


Памятны здымак з публікай (на першым плане злева: кіраўнік Марк Зубрыцкі)

# Адраджаецца ў БЕЛАВЕЖЫ беларускасць

Хаця зараз у Белавежы жыве многа прыезджых людзей, якія займаюцца ў навуковай, турыстычнай і паслугова сферах, у пушчанскай мясцовасці надалей захоўваюцца беларускія традыцыі і культура. Штораз часцей арганізуюцца тут беларускія культурныя мерапрыемствы з песнямі, дэкламацыяй і народнымі танцамі. Паспяхова вяртаецца ў падставовую школу і гімназію навучанне беларускай мовы, а ад пяці гадоў дзейнічае беларускі народны калектыў «Ручаёк», заснаваны адданым беларускай культуры Маркам Зубрыцкім. Займаецца ён таксама з дзеткамі падставовай школы і разам з настаўніцай беларускай мовы Анджалінай Масальскай вядзе беларускі гурт «Сунічкі». Беларускі калектыў «Ручаёк» паспяхова выступаў у Белавежы падчас «Купалля», «Ператоча» і іншых мерапрыемстваў, удала прэзентаваўся ў іншых мясцовасцях, здабываў прызавыя месцы ў Агульнапольскім фестывалі «Беларуская песня».

У кіназале Белавежскага асяродка культуры 11 кастрычніка спаткаліся аматары беларускай песні з Белавежы і наваколля, каб адзначыць 5-гадовы юбілей народнага калектыву «Ручаёк». Прыбылі прадстаўнікі гмінных улад з войтам Альбертам Літвіновічам, гмінныя радныя, кіраўнікі белавежскіх установаў і запрошаныя госці. Сабраных прывітаў дырэктар Белавежскага асяродка культуры Матэвуш Гутоўскі, а мерапрыемства павяла настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская. Калектыў «Ручаёк» запрэзентаваўся з беларускімі народнымі і эстраднымі песнямі. Спевакі выступілі пад акампанемент Марка Зубрыцкага (акардэон) і Себастыяна Байко (гітара). Музычны і арганізацыйны кіраўнік калектыву Марк Зубрыцкі падбірае рэпертуар для белавежскага калектыву (беларускія песні састаўляюць у ім 90%). У гэтай справе раіцца са спевакамі. Сябры «Ручайка» сказалі мне, што хочуць падтрымліваць традыцыю співаць па-беларуску і важна ім прапагандаваць сярод мясцовага насельніцтва беларускую культуру.

— Мая сям'я выводзіцца з Нараўчанскай гміны. Раней я жыў у Гайнаўцы і вёў у Гайнаўскім белмузеі калектыў «На мяжы». Ажаніўся я з белавежанкай і сюды пераехаў на пастаяннае жыхарства. Яшчэ будучы кавалерам, стаў я весці музычныя мерапрыемствы ў гасцініцы «Зуброўка». Прыйшоў я да войта Альберта Літвіновіча і запрапанаваў яму заснаваць пры Белавежскім асяродку культуры беларускі калектыў. Войт падтрымаў маю прапанову. Першымі співаць па-беларуску рашыліся тадышнія матурысткі Іаанна і Паўліна Шаўкала, дзве Паўліны Бушко і Эвеліна Слёнчка, а я састаўляў ім акампанемент на акардэоне. У маі 2009 года адбыліся першыя рэпетыцыі нашага калектыву, а ў ліпені мы выступілі на белавежскім «Купаллі». Пасля па-беларуску пажадалі співаць іх мамы. Першая рэпетыцыя «Ручайка» ў пашыраным складзе адбылася 4 кастрычніка 2009 года. Тады наш калектыў стаў у нейкай ступені сямейным калектывам, бо побач дачок сталі выступаць іх мамы, — сказаў Марк Зубрыцкі.

На працягу пяці гадоў састаў гурту «Ручаёк» мяняўся, але частка асоб з першага складу спявае па сённяшні дзень. Зараз у белавежскім калектыве выступае 12 асоб, у тым ліку ажно 5 асоб з дзвюх сем'яў. Да сясцёр Іаанны і Паўліны Шаўкала далучылася іх мама Анна, а з Аннай Ляўчук выступае яе мама Іаанна.

— Беларуская культура і беларускія песні — спадчына нашых продкаў, якую мы хочам захоўваць і прэзентаваць мясцоваму грамадству і па-за нашай гмінай, — сказалі Іаанна і Паўліна Шаўкала, выпускніцы Гайнаўскага белліцэя. Іх маці Анна Шаўкала дабавіла, што выступы разам з дочкамі толькі ўзмацняюць сямейныя сувязі і даюць станоўчы прыклад для іншых сем'яў. Маці Анны Шаўкала, Люба Масайла, удала выступае ў «Падляшанках» з Гарадзіска і можа таму яе ўнучкі Іаанна і Паўліна так ахвотна падтрымліваюць сямейныя традыцыі спявання народных песень.




— Добра, што маладыя ахвотна спяваюць родныя песні, — заявіла Іаанна Ляўчук, якая выступае ў гурце разам з дачкой Аннай.

— У нас з мамай супольнае зацікаўленне, бо абедзве любім співаць. Можна сказаць, што беларускія песні аб'ядноўваюць у Белавежы пакаленні, — гаварыла Анна Ляўчук, выпускніца Гайнаўскага белліцэя.

Калі цяперашня студэнткі вучыліся ў пачатковай школе ў Белавежы, беларуская мова тут яшчэ не выкладалася. Пачалі ёй вучыцца толькі ў белліцэі. Грыша Байко, як яго прадстаўляюць на нядаўна выпушчанай кружэлцы «Ручайка», зараз жыве ў Гайнаўцы. Аднак ахвотна прыязджае ў Белавежу да бацькоў і на рэпетыцыі калектыву і рады, што можа жыць радасцямі і праблемамі пушчанскай мясцовасці, дзе самы лепшы на ўсю Польшчу паказчык колькасці навукоўцаў на душу насельніцтва гміны. Аднак гэта не перашкаджае выступаць з беларускімі песнямі і прапагандаваць беларускую культуру перад змешаным зараз грамадствам Белавежскай гміны. У калектыве выступае таксама Тацяна Кутрань, якая прыехала ў Белавежу на пастаяннае жыхарства ажно з Украіны і захапілася беларускімі песнямі. У калектыве ад пачатку спявае Паўліна Бушко, а пазней дайшлі яшчэ Барбара Яганаў і Агнешка Каладзінская. Нядаўна Белавежскі асяродак культуры і Таварыства сяброў Белавежы выдалі кампактдыск з песнямі «Ручайка». Сродкі на выданне кружэлкі былі выдзелены з праекта «З фальклорам праз жыццё — музычныя сустрэчы ў Белавежы», які рэалізуе мясцовы асяродак культуры. Марк Зубрыцкі звярнуў таксама ўвагу на фінансавую падтрымку пры выданні кружэлкі Надлясніцтва Белавежа і белавежскіх рэстаранаў «Сточак» і «Пакуса». Кампакт-дыск з прыгожымі беларускімі песнямі атрымалі ўсе ўдзельнікі святкавання юбілею белавежскага гурту.

— Мы — беларускі калектыў і таму вокладка кампакт-дыска афармлена на беларускай літаратурнай мове кірыліцай, згодна з нашымі традыцыямі. Частку песень мы сабралі ад мясцовых жанчын. Гэтыя творы спявалі нашы продкі. Некаторыя песні мы выконваем без акампанементу. Такому спяванню вучыла нас падчас майстаркласаў Анна Фіёнік са Студзіводаў, — сказаў Марк Зубрыцкі. — У нас зараз тры камплекты ўбораў, плануем пашыць яшчэ новыя касцюмы. Калі я па запрашэнні Таварыства «Радзіма» пабываў у Мінску, мне сказалі, што мы павінны выступаць у сваіх касцюмах, выкананых на Беласточчыне. Таму мы касцюмы для сябе не прывозім з Рэспублікі Беларусь, толькі шыем на месцы.

Юбілейнае мерапрыемства праходзіла ў рамках праекта «5-годдзе калектыву «Ручаёк» з Белавежы» і было прафінансаванае сродкамі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. Падтрымалі юбілей Управа Белавежскай гміны, Надлясніцтва Белавежва, Школьна-прадшкольны комплекс у Белавежы, Дом дзіцяці ў Белавежы, Таварыства сяброў Белавежы, Дабравольная пажарная ахова ў Белавежы і Гайнаўскі дом культуры. Дзейнасць Таварыства сяброў Белавежы аднавілі Марк Зубрыцкі з членамі калектыву «Ручаёк».

— Зараз Таварыства сяброў Белавежы займаецца ў галоўным дзейнасцю ў карысць беларускай культуры і дапамагае нашаму калектыву, — сказаў Марк Зубрыцкі.

Падчас юбілейнага канцэрта гасцінна выступіў беларускі калектыў «Чыжавяне» з Чыжоў. З пяццю беларускімі песнямі запрэзентавалася Юліта Кічкайла з Майстаркласаў па працоўнай тэрапіі ў Гайнаўцы. Займаючыся ў гэтым асяродку, прыладжваецца яна да больш самастойнага жыцця, а выступаючы з беларускім рэпертуарам здабывае прыхільнасць публікі на Гайнаўшчыне. Юбілейны канцэрт і дзейнасць «Ручайка» пахваліў дырэктар Дома сацыяльнай дапамогі «Ракітнік» у Белавежы Мікола Галёнка і ўручыў белавежскім спевакам прыгожы падарунак. Сувенір белавежскі калектыў атрымаў таксама ад «Чыжавян». На калідоры можна было пагладзець фотавыставу аб дзейнасці «Ручайка» і дыпломы, якія атрымаў гурт. Прэзентаваліся там таксама мастацкія працы, выкананыя на конкурс на графічнае афармленне кружэлкі белавежскага калектыву. Сабраным прапанаваўся салодкі пачастунак. Пасля канцэрта калектыў «Ручаёк» зрабіў памятны здымак з публікай перад будынкам Белавежскага асяродка культуры.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Як на лебядзіным возеры

„Грэцкая імша здзіўляльная. Зусім не відаць алтара; святар толькі час ад часу адкрывае брамку і паказваецца сабраным. Адкрывае яе і закрывае бадай шэсць разоў. У час Евангелля выходзіць бакавой форткай, стае пасярэдзіне капліцы і чытае з кніжкі; тое ж самае і ў час узнясення. Пасля завяршальнага блаславенства зноў закрывае брамку і тады з бакавога флігеля капліцы выбягае хлапчук з вялікай тацай поўнай дробных кавалкаў хлеба. Святар ідзе за ім і раздае хлеб тоўпячымся вернікам. Пякельна пацешнае. Грэцкі святар прыглядаўся мне вельмі насцярожана". Так пісаў сто дзевяць гадоў таму Джэймс Джойс свайму брату Эстаніславу.

Не дзіва, што славутаму ірландскаму пісьменніку, выхаванаму ў строгай заходняй традыцыі, усходні абрад здаўся нечым надта пацешным. Жыў ён тады ў Трыесце і пасля першага візіту часцей наведваў тамашнюю царкву святога Ніколы. Трыест, гэта міжземнаморскі порт, дзе — так як і ў Марселі, Салоніках ці Адэсе, поўна было людзей рознага культурнага вываду; амаль так, як у Беластоку і навокал... Джэймс Джойс заўважыў, што людзі ў Трыесце размаўляюць на трох мовах: нямецкай, італьянскай і славянскай; магчыма, што — як гэта я сабе прафанна ўяўляю — па старaславянскай гэтага канстатацыі *три есть* *iazыка* ці ранейшага лацінскага *tri est linguae* і пайшла назва горада. Нешта падобнае ў эпоху Джэймса Джойса бывала і ў Беластоку. Цяпер, мабыць, аднолькава, так у Беластоку, як і ў Трыесце...

Згодна трэцяй — у лацінскай рэдакцыі — ці чацвёртай — у візантыйскай — запаведзі, стараюся наведваць сваю царкву ў кожны *день субботний*. І здараецца наглядаць у нас не менш цікавыя падзеі, чым тыя, якія заўважыў славуты ірландзец. Аднак, пакуль брацца за іх, варта зрабіць маленькі экскурс у архітэктуру. Царква святога Ніколы ў Трыесце звонку выглядае так, як царква ў Боцьках, затое інтэр'ер яе падобны да інтэр'ера Святадухаўскай царквы ў Беластоку. Мая ж прыхадская царква звонку нагадвае кананічны каўчэг, толькі двухэтапна: спярша яна нагадвае лебедзя, а пазней той лебедзь па плаву нагадвае каўчэг. Інтэр'ер маёй царквы даволі складаны, хаця ў агульным кшталце яна падобная на ратондны амфітэатр. Аднак яна падвальная і ў ёй крыху тоўстых калон, якія падтрымліваюць галоўнае збудаванне ды вельмі дыверсіфікуюць бачнасць з розных месц. Калі разглядаць той інтэр'ер як глядзельную залу, дык з некаторых яе месцаў відаць усе згаданыя Джэймсам Джойсам брамкі і форткі *celująco*, а з іншых месц — *niedostatecznie*.

У першую нядзелю кастрычніка пайшоў я здзейсніць свой штотыднёвы абавязак. Звычайна займаю я такое месца, з якога не надта відаць брамкі і пастыраў, затое выдатна бачыцца рух між згаданымі калонамі набожных авечак. Паколькі стараюся быць пунктуальным, а не ўсе такія, то маю магчымасць бачыць перад сабою парад найбольш модных святочных мадэляў адзення — рыхтык быццам у сусветнай сталіцы моды Мілане, быццам амаль у Трыесце...

Побач адной калоны спынілася мая Аднасяльчанка, апранутая паводле ўсіх кананічных патрабаванняў. З таго месца выдатна відаць ход службы і яна ў яе ходзе засяроджваецца толькі на супольным малітоўным абрадзе. Дадам яшчэ нетактоўна, што яна з'явілася на свет у геркаўскі перыяд нашай дзяржаўнасці. Нейкі час пасля падышла да яе жанчына, значна старэйшая, на від народжаная ў эпоху вусатых *властей и воинства*. Падышла яна танцавальнай лебядзінай паходкай. Тут агаворка: лебядзіная паходка гэта не тая, якой лебедзі ходзяць па вадзе, толькі тая, якою лебедзі ходзяць побач вады. Падышла тая жанчына, якую я тут назву Лебядзінкай, бо ў яе і галоўка лебядзінага дызайну, да маёй Аднасяльчанкі і прыняла такую агрэсіўную пазіцыю, быццам хацела маёй паглыбленай у малітве Аднасяльчанцы залімоніць, як гэта гаворыцца ў маёй вёсцы. Але Лебядзінчын намер не быў заўважаны, бо яна і больш-менш лебядзінага росту. Тады Лебядзінка ступіла яшчэ паўкроку бліжэй, прымаючы яшчэ больш баявы



выгляд; аднак надалей асталася незаўважанай...

Схваткі на рэлігійнай аснове не з'яўляюцца выдумкай — гэта хлеб амаль надзённы. І не пачаліся яны з крыжовых паходаў, і на тых крыжовых паходах не завяршыліся. Лебядзінка падступіла яшчэ бліжэй і выканала такі прыём, які ў хакеі называецца *body check*; у хакеі такім прыёмам найчасцей звальваецца працаўніка на лёд. Гэта ў матчах дынамаўцаў з тарпедаўцамі ці іншымі армейцамі, але ў маёй царкве Лебядзінка выканала гэты прыём даволі далікатна, аднак рашуча, заяўляючы ці то сваё патрабаванне заняць фешэнебельнае глядзельнае месца, ці то больш агульнае патрабаванне захіліць сваю малодшую рэлігійную сястрычку ад нейкіх грэшных думак. Мая Аднасяльчанка моўчкі знікла з майго поля зроку...

Я крышку ўстрывожыўся за сваю так блізкую зямлячку. Бо ж яна такім ухіленнем адмовілася і ад старазапаветнага прынцыпу вока за вока, зуб за зуб, *body check* за *body check*. І ад новазапаветнай рэкамендацыі: пасля атрымання кухталя ў адзін бок падставіць пад удар другі бок. То ж за гэтакае ўхіленне ад асноў неабходна пакласці галаву пад епітрахіль...

Не менш затрывожыла мяне рашучае дзеянне Лебядзінкі. Ці сапраўды яна выштурхнула сабе выгаднае дазорнае месца? Ці можа навяла элементарны парадак? Бо ці ж вядома, чаго можна спадзявацца ад маладых? Чаго ж тая маладая асоба стаіць у такім месцы і ўзіраецца ў брамкі, форткі і аблачэнні? Дзеля цікавасці? А мо яна зараз выме з сумкі біноклі і стане дэталёва расследаваць тайны таінстваў? Мо нешта ёй не спадабаецца і рушыць яна за тыя брамкі і фортачкі наводзіць свае парадкі замест кананічных?

Калі я так сушыў галаву, *вопияше* мой любімы Прапаведнік: **Starszy człowiek jest jak Pan Bóg, jak Jezus, jak aniołowie i wszyscy święci!** Гэта мне спачатку падалося нейкай кіпучасмалавітай ерассю, але ж трэба было адмовіцца ад такой грэшнай думкі, бо аб'явіў яе зрукапаложаны са Святым Духам ***minister Dei*** — слуга Божы, напэўна не наймалодшы, значыць такі рангам ***jak Pan Bóg, jak Jezus, jak aniołowie i wszyscy święci***. Гэта, здаецца, новая догма, якая адназначна ставіць метрыку асновай ***sacrum***. Цяпер, у сілу навінкі, у царкву спатрэбіцца хадзіць з пашпартам, каб без кухталёў заняць там належнае старэйшаму спажыўцу надзённага хлеба месца. Найбліжэй брамак і фортак, дзе найсакральней і найбольш кадзільнага дыму, павінна быць месца найраней народжаным, а ўсялякія гарэзлівыя малакасосы апынуцца на царкоўных камчатках, магчыма, што ў адмысловых пясочніцах пад сваім уласным наглядам.

Мой любімы Прапаведнік аб'явіў новую праўду з магчымай думкай і пра сваю крыўду, бо на амбон яго рэдка прапускае напорысты, каб не сказаць агрэсіўны, пастырскі маладняк, які яшчэ захоплены спортам, асабліва хакеем, як Прэзідэнт Лукашэнка, і які вельмі ласы прымяніць ***body check*** каб выкінуць бліжняга за борт. А ён жа, мой Прапаведнік, сваімі палымянымі пропаведзямі, сваёй напоўненай дабратой вогненай і пафаснай рыторыкай кранае сэрцы сабранай паствы глыбінёй веры, праўдзівасцю, багаццем свайго шматгадавітага жыццёвага вопыту. Як жа часта ў ягоных рэдкіх пропаведзях можна пачуць гарачую іерамізду: **„Bo co teraz pokazują w telewizji!? I dlatego trzeba chodzić do cerkwi!"**

Мой любімы Прапаведнік не раскрывае дэталяў таго, што цяпер паказваюць у тэлевізарах, бо што там паказваюць — кожны бачыць, у тым ліку і прапаведнікі, і паства. І не пра тэлевізійных Гедонаў ці Самсонаў прамаўляе ён, якіх ён напэўна не аглядае, бо і ў Пісанні пра іх і ім падобных подзвігі поўна. Мяркую, што мабыць ён, як ***starszy człowiek***, аглядае з пакутлівай агідай толькі грэшныя, найбольш вытанчаныя прыёмы сямейнай творчасці, каб пабачанае пасля бязлітасна зганіць з амбона. У Пісанні ёсць млявая згадка, каб адняць сабе ад гэтага вока, адно ці нават два, а вось мой любімейшы Прапаведнік прапануе наватарскае і намнога мякчэйшае адняцце ад сябе адно аднаго тэлевізара.

А ў царкву хадзіць трэба. Бо ж там можна пабачыць не толькі тое, што пабачыў Джэймс Джойс, ды пачуць яшчэ тое, чаго нават дарма чакаць з тэлебачання. Зойдзе чалавек у касцёл, сядзе ў лаўку і сядзіць там як у клетцы без фортак. А ў царкве — як у Амерыцы!

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

*Кацярына СЯНКЕВІЧ*

* * *

*ці я гераіня сумнай песні?*
*літаратурны малюнак укладваўся на галаве*
*распавядаў гісторыі*
*старой душы пустой фарбаванай*
*як санта клаўс з шакаладу*
*смуткі цякуць з сэрца перыферычным кровазваротам*

* * *

*ужо чаканы*
*вечар*
*далікатнае цяпло свечак вачэй награвае твае ўсмешкі*
*раніца*
*заварваю высушанае лісце ўспамінаў*
*далікатнае і драматычнае*
*гараць ад жару называння*
*закахання*
*актывізуюць мяне як кава*
*заліваю іх варам штодзённа некалькі разоў*

* * *

*маё малое цела*
*вялікі мікракосмас*
*не магу з яго пайсці на момант,*
*каб паглядзець здалёк*
*ты бачыш мяне з вышыні*
*абдымаеш адным позіркам*
*кантралюеш запальванне і тушэнне аганькоў*
*мігаценне сігнальных лямпаў*
*вызначае ўзровень зараду*
*акумулятара*
*дапаўняеш яго адным поглядам*

* * *

*смеласць каб здзейсніць мары*
*паказваюць пальцам як*
*памылкі*

* * *

*Не знікае час, напоўнены надзеяй.*
*Памнажаецца.*
*Я патрабую страчанага часу, напоўненага надзеяй.*
*Блукаю па калідорах непрыгодных для роздумаў.*
*Смяюся з тэмпу горада. Чакае мяне вулічны рух.*

* * *

*не ведаю, што са мной.*
*заблакаваныя некаторыя спалучэнні*
*мабільныя*
*паміж намі.*
*з'ядае мяне з чэрава*
*чорны кот угрызаецца*
*у чырвань і зелень вачэй*
*супакойваю пакуту малітвай*
*зайздрасць і тугу*
*малітвай*

* * *

*эмоцыі можна ўключаць і выключаць*
*я слухаю пакет песень названы тваім імем*
*аўтобус спыняецца*
*квадратныя вокны трымаюць яго*
*далонь прамавугольнага будынка цягне маё сэрца*
*людзі глядзяць у мой бок як на вясёлку што з дажджом*

* * *

*дзясяткі пластоў прыглушанага англійскага ружу*
*пакідаю на кожным палатне*
*я не ў стане вызначыць яго матэматычнай формулай*
*Пішу табе лісты, не перапісваючы іх электронным почыркам;*
*не пасылаю іх у нязменённай форме,*
*хвалююся што руж праб'ецца на другі бок ліста*

* * *

*незвычайная сціпласць*
*калі б я хадзіла тваімі сцежкамі*
*не спазнала б суму*
*знайду сцежку да цябе ў абодвух напрамках*
*каб пазней дабрацца да цябе*
*няспынным шляхам або аўтастрадай*
*пакуль аднак цяжка*
*думаць так высока*
*мары спрычыняюць боль*

* * *

*гарбата араматызаваная радасцю*
*з падвойнай дозай кафеіну*
*пабуджальная*
*пасалоджаная ўласным імем*
*паўтараным яе вуснамі*

* * *

*пачуццё адчуваецца адчуваннямі*
*яны выплываюць з сэрца*
*што гучна працуе побач*
*прапушчаныя выклікі, ненапісаныя пажаданні*
*баляць як правіла пазней і*
*раней*

# XI Гданьскія біяграфіі


Шэкспіраўскі тэатр у Гданьску


Анна Сабэцкая ўручае кніжку „Kalejdoskop..." героям кнігі Анне і Чэславу Мекінам

Верасень у гданьскіх беларусаў гэта перш за ўсё сустрэча ў Сопаце пры пячэнні бульбы, а кастрычнік, вядома, „Гданьскія біяграфіі", арганізаваныя горадам Гданьскам і Беларускім культурным таварыствам „Хатка", Асацыяцыяй літоўцаў, Мусульманскай рэлігійнай абшчынай, Гданьскім філіялам Грамадска-культурнага таварыства яўрэяў, Саюзам нямецкай меншасці ў Гданьску і Паморскім аддзяленнем Саюза ўкраінцаў у Польшчы.

Ад 16 да 19 кастрычніка пад лозунгам „Гданьскія біяграфіі" адбыліся дні нацыянальных меншасцей з багатай праграмай. Плакаты аб мерапрыемстве віселі ў горадзе і запрашалі жыхароў Гданьска да ўдзелу, між іншым, у прэзентацыі кніжкі Анны Сабэцкай „Kalejdoskop. Pomorskie spotkania z mniejszościami narodowymi", або прыняць удзел у дыскусіі на тэму „Становішча нацыянальных меншасцей у Польшчы і Еўропе", ці ў серыі лекцый у філіяле Ваяводскай бібліятэкі пры самай чароўнай вуліцы Трыгорада Марыяцкай на тэму „Меншасці ў 25-гадовых палітычных пераўтварэннях у Польшчы і на Памор'і", ці паслухаць канцэртаў з рэпертуарам яўрэйскім — „Wus zing der Jid", літоўскім — „Gryčia", беларускім — „Асеннi ліст" (з Гарадка, што на Беласточчыне), украінскім — Сусанна „Весна, весною" і нямецкім — „Bernsteinblumen"ды татарскага паказу — Mira Maj — Malowanie Piaskiem. Калектывы выступілі на сцэне звышсучаснага Шэкспіраўскага тэатра.

Нечаканасцю для старшыні „Хаткі" было яе ўзнагароджанне перад выступам „Асенняга ліста". Прэзідэнт горада Гданьска Павел Адамовіч прызначыў д-р Лене Глагоўскай грашовую ўзнагароду за актыўную і ангажаваную дзейнасць на навукова-грамадска-культурнай ніве горада Гданьска і пры шматгадовай арганізацыі «Гданьскіх біяграфій — Дзён нацыянальных меншасцей». Ініцыятар ушанавання Лены Глагоўскай — Савет нацыянальных і этнічных меншасцей на Памор'і — у пісьме прэзідэнту горада адзначыў яе «вялікі ўклад у развіццё культуры горада Гданьска і яе ўзбагачэнне на культуру нацыянальных і этнічных меншасцей». Віншуем!


Прэзідэнт горада Гданьска Павел Адамовіч уручае ўзнагароду д-р Лене Глагоўскай

Былі гэта ўжо XI Дні нацыянальных меншасцей. „Гданьскія біяграфіі" існуюць таму, — пішуць арганізатары, — бо „часта ў штодзённым жыцці нашым мысленнем кіруюць стэрэатыпы, „Біяграфіі" ладзяцца менавіта таму, каб з імі змагацца. У ходзе чарговых сустрэч мы намагаемся паказаць хараство і культурнае багацце меншасцей, наблізіць нашых суседзяў-гданьшчан, паказаць іншасць у адзінстве". І я з гэтым згодны.

Тэкст і фота Міхася КУПТЭЛЯ

SYMBAL BY

НАВІНЫ | ЯК КУПІЦЬ | ПРА НАС

## http://symbal.by

Кажуць, што ні робіцца — усё да лепшага. Трэба быць нялюдскай істотай, каб адносіць такую прымаўку і да вайны, дзе, натуральна, гінуць людзі. У тым ліку і да той вайны, якую вайной ніхто не прызнае, але яна, тым не менш, забірае жыцці людзей на ўсходзе Украіны.

Што тычыцца Беларусі, то тут трагічныя падзеі на Украіне займелі, у прыватнасці, і даволі цікавае адлюстраванне. Так, раптам антыбеларускія паводзіны лукашэнкаўскай улады крыху сцішыліся — ужо ніхто не крычыць, што мы адзін народ з расіянамі, затое Лукашэнка робіць смеху вартую прапанову аб дадатковай гадзіне для вывучэння беларускай мовы ў школах. У той жа час у грамадстве назіраецца хоць і не надта моцны, але ўсё ж такі попыт на беларускую нацыянальную вопратку — так званую вышыванку. Ну а попыт, зразумела, нараджае прапанову. І вось ужо ў інтэрнэце пачалі ўзнікаць сайты, што прапануюць такое адзенне — з вышытым беларускім арнаментам. Адзін з іх — **http://symbal.by**, які як і сайт **www.belarusam.by**, пра што пісалася ў папярэднім нумары „Нівы", зрабіў стаўку на дэманстратыўную беларушчыну.

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на сайт гэтага інтэрнэт-магазіна, то перад яго вачыма адкрыецца даволі прывабнае выяўленне, выкананае ў бела-чырвоным афармленні.

На даным этапе гэтая вэб-старонка адлюстроўвае патрэбу ў сабе з боку яе ўладальнікаў. „Мы хочам, каб пляцоўка symbal.by стала супольнасцю людзей, якія цікавяцца гісторыяй Беларусі, традыцыйнай, сучаснай і альтэрнатыўнай беларускай культурай, не толькі паважаюць родную мову, але і размаўляюць на ёй", — распавядаецца ў адной з нататак на першай старонцы сайта. У гэтым ён вельмі падобны на сайт грамадскай кампаніі „Будзьма беларусамі!" і сайт „Усе беларусы", пра якія „Ніва" пісала ў нумарах ад 19 кастрычніка 2008 г. і 8 студзеня 2012 г. адпаведна.

Але, канешне, сэнс з'яўлення новага сайта ў прамоцыі сваіх тавараў, выкарыстоўваючы інтэрнэт-маркетынг. „Шаноўныя наведнікі пляцоўкі symbal.by! Пакуль мы працуем у тэставым рэжыме, але ўжо прымаем вашыя заяўкі. Першы месяц яшчэ будзем намагацца глебу і дапрацоўваць сістэму працы пляцоўкі, таму не гарантуем аператыўнасць выканання замоў. Тым не менш, вы можаце ўжо знаёміцца з нашым асартыментам і нешта замаўляць праз гэтую форму", — кажуць уладальнікі інтэрнэт-магазіна ў нататцы „Пляцоўка працуе ў тэставым рэжыме".

Яны лічаць, што прапанаваныя імі рэчы варта мець беларусу. „Мы не хаваем таго, што symbal.by — будзе ўнікальнай інтэрнэт-пляцоўкай. На ёй будуць размешчаныя рэчы, якія створаныя беларусамі і па-беларуску, дыхаюць беларушчынай, народным каларытам ды здаровым патрыятызмам. Калі вы шукаеце адметны падарунак альбо рэчы з гістарычнай, народнай і нацыянальнай сімволікай, то лепшыя працы таленавітых беларускіх майстроў для вас у адным месцы збярэ symbal.by", — па-рэкламнаму ўпэўнена сцвярджаюць гаспадары сайта-магазіна.

Ну а з таварамі, што прапануюцца на сайце, можна азнаёміцца на галоўнай старонцы крыху ніжэй. Там, акрамя кашуляў з вышыўкай, можна пабачыць вокладкі на пашпарт і аўтамабільныя дакументы, ёлачныя шары, сцяжкі, значкі і гэтак далей. Праўда, кошты там не для самых бедных беларусаў.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



Заснавальнік беларускага тэатра

## 130 гадоў з дня нараджэння Фларыяна Ждановіча

Фларыян Ждановіч, адзін з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра, акцёр, рэжысёр і грамадскі дзеяч нарадзіўся 28 кастрычніка 1884 г. у Мінску. Паходзіў з сям'і службоўца банка. Быў першынцам з шасці дзяцей у сям'і. Скончыў Мінскую рэальную вучэльню. У 1902 г. скончыў Варшаўскую драматычную школу. Працаваў акцёрам у польскіх тэатрах Беларусі. У 1907 г. вярнуўся ў Мінск, дзе выступаў у тэатральнай трупе пры польскім спартовым таварыстве „Сокал" з вершамі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Далучыўся да беларускага культурніцкага руху. 15 жніўня 1913 г. у Радашковічах адбылася прэм'ера знакамітай п'есы „Паўлінка". Ставіў спектакль Мінскі драматычны гурток, якім кіраваў Фларыян Ждановіч, а сярод гледачоў быў і сам аўтар — Янка Купала. Падрыхтаваў мастацкую праграму „Беларускі кірмаш". Арганізаваў драматычны гурток, які пасля паказу ў вёсцы Старое Сяло пад Мінскам спектакля „Па рэвізіі" Марка Крапіўніцкага быў забаронены ўладамі. Каб пазбегнуць арышту, выехаў у Крым, дзе выступаў на рускай сцэне.

Да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Ждановіч працаваў у Мінскай гарадской думе. У 1917 г. быў мастацкім кіраўніком Першага таварыства драмы і камедыі ў Мінску. У складаных умовах нямецкай і польскай акупацыі ствараў беларускі нацыянальны тэатр. Абапіраўся на досвед папярэднікаў — Ігната Буйніцкага і іншых, шырока выкарыстоўваў у сваіх пастаноўках народную музыку і спевы. У 1919 г. паставіў у Вільні п'есу Янкі Купалы „Раскіданае гняздо". У 1920 г. быў мастацкім кіраўніком Першага беларускага таварыства драмы і камедыі. 14 верасня 1920 г. пад яго кіраўніцтвам у Мінску адкрыўся Беларускі дзяржаўны тэатр (цяперашні Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы). Аснову трупы складалі Генрых Грыгоніс, Еўсцігней Міровіч, Канстанцін Саннікаў, Стэфанія Станюта. Гэтаму легендарнаму пакаленню было наканавана стаць першымі „зоркамі" айчыннай сцэны, заснавальнікамі нацыянальнай акцёрскай школы. Адначасна ў Наркамаце асветы БССР Ждановіч курыраваў беларускія тэатры, быў рэжысёрам Беларускага савецкага тэатра, ставіў спектаклі ў БДТ-3. З 1922 г. у акцёрскім складзе БДТ-1. Выступаў пад псеўданімамі Алесь Крэсік, Іван Карась. Акцёрамі былі дачка Фларыяна Ждановіча — Ірына і ягоны брат Антон Ждановіч.

Фларыян Ждановіч зрабіў шмат першых пастановак класікі беларускае драматургіі — твораў Купалы, Коласа, Ляхновіча, Галубка, Каганца. Ён сам перакладаў на беларускую мову творы польскай, расійскай і ўкраінскай класікі.

У 1929 г. Ждановіч пакінуў Беларусь. У 1930 г. пераехаў з сям'ёй у Саратаў (Расійская СФСР), дзе ўладкаваўся рэжысёрам-педагогам тэатральнай вучэльні. 18 ліпеня 1930 г. яго арыштавалі па справе „Саюза вызвалення Беларусі" і засудзілі да 5 гадоў ссылкі ў савецкім канцлагеры, якую ён адбываў на Беламорканале. Пасля яму не далі вярнуцца ў Беларусь. 8 ліпеня 1937 г. Ждановіча ў ліку іншай беларускай інтэлігенцыі арыштавалі зноў і засудзілі да расстрэлу. Быў рэабілітаваны толькі ў 1956 г.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Пра аўтара „Нівы” Уладзіміра Сіўко

Вершы паэта з Навагрaдчыны з'яўляліся на старонках „Нівы” ў 1990-я гады. А 30 сакавіка 1997 г. Мікола Ваўранюк напісаў пра сустрэчу ў Любчы з Уладзімірам Сіўко (1916-2003). На змешчаным у тым нумары здымку побач з Сіўко бачым паэта Анатоля Сыса.

У гасціннай хаце ў цэнтры Любчы бывала нямала гасцей. Уладзімір Сіўко расказваў пра сваё жыццё, любіў пажартаваць, чытаў вершы, паказваў старыя фотаздымкі. Неяк ён прыгадаў, што ў 1936 годзе пачаў друкавацца ў віленскім беларускім часопісе „Шлях моладзі” пад сваім прозвішчам і псеўданімам „Горн”. Калі польская паліцыя праводзіла ператрусы ў вёсцы Ачукевічы, дзе жыў Сіўко, ён увесь свой творчы набытак закапаў і ўсё загінула.

Вясна прыйшла — цвітуць сады;
У грудзёх бурляць прылівы сілы;
Я чую покліч барацьбы
За свой народ, за край свой мілы!

У верасні 1939 года выпускнік Навагрaдскай беларускай гімназіі ўдзельнічаў у абарончай вайне ў складзе польскага войска, вярнуўся ў родную вёску, пры „першых саветах” быў дырэктарам школы. Ад вывазу яго сям'і ў Расію ў чэрвені 1941 г. выратаваў пачатак нямецкай агрэсіі. Калі ствaрыўся „навагрaдскі швадрон” Барыса Рагулі, Уладзімір Сіўко стаў яго намеснікам. У сакавіку 1944 года правёў перамовы з прадстаўнікамі польскіх партызанаў, патрабаваў спынення антыбеларускага тэрору.

Летам 1944 года ён захварэў, яму зрабілі аперацыю, таму і не адступіў з сябрамі на Захад. Не хаваўся, жыў у Вільні пад сваім прозвішчам, і яго знайшлі, арыштавалі толькі праз год. Зняволенне адбываў на Калыме, дзе зноў пачаў пісаць вершы. Беларусы-палітвязні іх перапісвалі, завучвалі на памяць. Адзін з самых вядомых твораў „На магілу З. К.” Уладзімір Сіўко напісаў у 1952 годзе. Ён перажываў, што даследчыкі творчасці Ларысы Геніюш сталі прыпісваць гэты ягоны верш нашай славутай паэтцы.

Свой першы і апошні зборнік вершаў Сіўко выдаў у 1996 г. у Навагрaдку — „Позьнія кветкі”. Марыў пра наступную кнігу, друкаваў свае новыя творы, успаміны ў мясцовым друку, у „Нашым слове”, „Ніве”.

Бурліць крынічка жывым словам
Бацькоўскім родным, дарагім.
Наканавана нам ахоўваць
Яе святыя берагі.

Апошнія гады жыцця Уладзімір Сіўко правёў у Магілёве, куды яго з жонкай Вольгай забрала з Любчы дачка. Ён адышоў у лепшы свет 18 студзеня 2003 года.

Сяргей ЁРШ

# Фэст з беларускай ноткай

19 кастрычніка ў вясковай святліцы ў Дашах адбыўся беларускі народны фэст з цыкла „І тут жывуць людзі”. Арганізатарамі мерапрыемства былі Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы і Гарадскі асяродак культуры, спорту і адпачынку (ГАКСіА) у Кляшчэлях. Гэта быў сорак першы фэст шостага завяршальнага выпуску беларускіх фэстаў ладжаных музеем. Мерапрыемства пачалося ў 15 гадзін пры поўнай аўдыторыі. Гасцей прывіталі і з праграмай пазнаёмілі вядучыя Паўліна Паўлючук-Коська і Марыёля Герман. Пакуль да выступу падрыхтаваўся першы калектыў, голас узялі працаўнікі ГАКСіА Зянон Селеваноўскі і Марк Скамароўскі, якія выканалі дзве песні „Колькі ў небе зор” і „Баяніст”. Затым выступіла мясцовая „Каліна” з гумарэскамі „Бацькоўскае блаславенне” і „Куры”. А пасля панесліся песні, нашы, з беларускай ноткай. Выступаючыя гурты прэзентавалі багаты і разнародны рэпертуар. Публіка была зачаравана выступам гурту „Гай” (мастацкі кіраўнік Марыюш Харужы) — лаўрэата сёлетняга конкурсу „Беларуская песня 2014”. Прэзентаваныя песні змяняліся як у калейдаскопе: „На вуліцы мокра”, „Вяне рута”, „Ты казала ў панядзелак”, „Ой бяда” ды іншыя. Пасля кожнага нумара гучалі бурныя апладысменты. Выступ гурту „Гай” завяршала папулярная песня „Распрагайце хлопцы коней”. Але публіка не дазволіла артыстам сысці са сцэны. Зала грымела: біс, біс... Затым на развітанне калектыў выканаў жартоўную песню „Ой што за шум учыніўся, камар на мусе ажаніўся”.

Гурт „Гай”

Вядучыя канцэрт з прыемнасцю запрэзентавалі лаўрэата II прэміі сёлетняга конкурсу „Беларуская песня” калектыў „Жар” з Сарнакаў, вядомы жыхарам Кляшчэлеўскай гміны (выступаў у Гайнаўцы, Кляшчэлях і Палічнай). Дашоўскай публіцы праспяваў дзве беларускія песні: „Каля рэчкі, каля броду” і „Цячэ вада ў ярок”, затым нападраменку некалькі польскіх гітоў: „Ціха вода”, „Чэрвона каліна”, „Гэй, соколы” ды іншыя. І зноў перад публікай вядомы дуэт Марк Скамароўскі і Зянон Селеваноўскі. Гэтым разам выканалі польскую песню „Жураве” і беларускую „Вішня”...

Канцэрт працягваўся. На сцэну выклікаюць гурт „Арт-Пронар” з Нарвы пад кіраўніцтвам Янкі Снарскага. Артыстаў не трэба было рэкамендаваць — яны вядомыя на Падляшшы, выступаюць на беларускіх фэстах з цыкла „І тут жывуць людзі”, удзельнічаюць у фестывалях „Беларускай песні” і ў культурных мерапрыемствах на Гайнаўшчыне ды ў суседніх паветах. У Дашах таксама паспяхова запрэзентаваліся з багатым рэпертуарам: „Плакучая гітара”, „Маміна сарочка”, „Букеты белых руж”, „Малінаўка”, „Каліна”, „Гаворка беларуская” ды іншыя. Завяршыў канцэрт вакальна-інструментальны калектыў „Дэкада Банд” з Беластока. І тут царыла беларуская песня і музыка (папулярныя „Чараўніца” ці „На вуліцы мокра”). Выступы мастацкіх калектываў доўжыліся больш за чатыры гадзіны. Публіка не нудзілася. Прыемна адпачывала пры гуках музыкі і песні. А пасля гаспадары вёскі запрасілі гасцей і спонсараў на супольны пачастунак.

Тут важакамі былі радная Таіса Барысюк і солтыс Уладзімір Андрусевіч. Прыемна было пагасцяваць у Дашах на фэсце. Больш бы такіх імпрэзаў!...

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# Адгаданка

1. напрыклад, Атлантыка, 2. пашкоджанне тканкі арганізма ад знешняга ўздзеяння, 3. участак зямлі з морквай, буракамі, цыбуляй, 4. прозвішча аўтара „Партрэта Дарыяна Грэя”, 5. славянскі бог кавальства, 6. вялікая венгерская рака, 7. расліна сямейства ароідных (*Acorus calamus*), 8. кодавая назва гітлераўскага плана каланізацыі Усходняй Еўропы, 9. снежная бура ў стэпе, 10. устройства для забаў у месцах масавых гулянняў, 11. выспа з Джакартай, 12. гарадок у Валожынскім раёне, 13. гаспадарчы цэнтр Швейцарыі, 14. рыба на бязрыб'і, 15. храстковая трубка ў пярэдняй частцы шыі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. (ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 41 нумара

Быкаў, быт, Відзы, Ева, Ілі, каліва, лаўка, масіў, пасіў, плаўка, серада, сетка, сын, тыл, тыпаж, цясляр, Шчара, яслі.

Рашэнне: **Калі ты нарадзіўся ўсе радаваліся а ты плакаў; жыві так, каб пасля смерці ўсе плакалі а ты быў шчаслівы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 02.11 — 08.11

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш адораны інтуіцыяй, пазбегнеш памылковых рашэнняў. Будзеш сімпатычны для ўсіх. У пачуццях размаўляй. Добра ў справах блізкіх. Неблагая псіхічная форма. Ды дакучаць будуць табе пазваночнік і калені. Не еж салодкага і тлустага.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш натхнёны новымі ідэямі і задумамі, можаш наладзіць шматабяцальныя прафесійныя знаёмствы і зрэалізаваць адважныя праекты. Інтэнсіўныя перажыванні і пазітыўны досвед; у справах пачуццёвых, і фінансавых, удасца ўсё. З 7.11. не пераборшчвай з дабрачыннасцю; хтосьці скоча выкарыстаць тваю наіўнасць. Схадзі да лекара, парабі абсьледаванні; зможаш улавіць хваробу ў зародышы. 6.11. над тваёй сям'ёй могуць згусціцца чорныя хмары, але будзе не так страшна.

**(22.05. — 22.06.)** Зможаш узяцца за важныя рашэнні, асмелішся да дзеяння. Затое ў любоўных справах чакае цябе шмат фрустрацыі, іскрэння. Ды стрэс будзеш пераносіць зусім някепска. Рэгенеруйся. Удача, якая табе прытрапілася, будзе мець добры працяг.

**(23.06. — 23.07.)** 1-4.11. знакаміты час на інтарэсы. Наладзіш цікавае знаёмства і пачнеш праект, які ў будучыні будзе прыносіць вялікія прыбыткі. Ды поўня Месяца (5-7.11.) можа прынесці расчараванні ў кампанейскіх адносінах. 6.11. пазбягай медыцынскіх працэдур, аперацый.

**(24.07. — 23.08.)** 1-5.11. будзеш мець магутную сілу. Хутка зрэгенеруешся, адважна станеш перад лёсам і дасягнеш таго што запланаваў. Спакусы і шанцы ў пачуццёвым жыцці. А што з розумам? Захавай яго пры фінансавых справах. Працягні руку на згоду першы. Карыстайся жыццём. У лістападзе лепш не бяры крэдытаў.

**(24.08. — 23.09.)** 1-4.11. ашаламляльная папулярнасць у іншага полу. І ў фінансавым плане дасі сабе рады прыпяваючы. Хоць халадна, рамантычныя парывы сэрца. Сям'я будзе стаяць за табою мурам. Да 20.11. будзеш радасны, поўны сілы і энергіі. Многа выдаткаў у лістападзе, не раскідвайся грашыма.

**(24.09. — 23.10.)** Увесь месяц ты поўны чары! Адчуеш цяпер прыхільнасць лёсу — здзейсніцца твая адна з найбольшых мараў! Энергія, сіла, жвавасць. Але не натужвайся. 1-5.11. сіла, магчымасць пераканання, добры час на бізнесавыя прыёмы. На адной з сямейных імпрэз можаш пазнаёміцца з каханнем сваіго жыцця. Да 16.11. будзеш мець цікавыя прапановы на працы, можа новага заробку.

**(24.10. — 22.11.)** 1-5.11. будзеш мець сілу, адвагу і рашучасць. Можаш многа падзейнічаць! Магчымыя вялікія любоўныя поспехі; можаш знайсці другую палавінку! Халадна ў пачуццях Скарпіёнаў народжаных паміж 2 і 9.11. — будзеце выбіраць паміж каханнем і абавязкамі ды працай. 5-7.11. могуць паявіцца праблемы ў міжчалавечых адносінах, асабліва ў пачуццях. Некаторыя справы выявяцца, адны цябе ашарашаць, іншыя прыгнятуць. Месяц працы, таксама дома, поспехаў у лячэнні неканвенцыянальнымі спосабамі.

**(23.11. — 22.12.)** 1-4.11. шмат нагод, каб зрабіць карысныя інтарэсы і аформіць цяжкія справы. Добрыя дамовы, прыбытковыя трансакцыі. Толькі не будзь лішне прагны! Блізка агню кахання. Многа кампанейскіх нагод. Але 1-3.11. разладзяцца эмацыйныя сувязі з адным калегам (можа, далёка з'едзе?).

**(23.12. — 20.01.)** 5-7.11. удачы і поспехі, дасягненні і ў прафесіі, і асабістым жыцці досыць лёгка. Прыхільныя людзі, нават канкурэнцыя. На канец дацэняць твае старанні! У пачуццях без сутрасенняў і ў гармоніі. Хаця з найбліжэйшымі не заўжды будзе па дарозе. Будзеш моцны, энергічны, вясёлы. Патрэніруйся.

**(21.01. — 19.02.)** Палюбяць цябе грошы, але каля кахання добра находзішся! Патрэбныя табе будуць доказы кахання! Не занядбоўвай патрэб цела, працуй, але і адпачывай, так да другой паловы месяца. І на працы крыху пад горку

**(20.02. — 21.03.)** Знакаміты час на інтарэсы. Буйнае пачуццёвае жыццё. Калі ў цябе няма пары, будзеш проста перабіраць! Можаш цяпер парваць адно знаёмства, якое здаўна табе не адпавядала, захочаш змяніць атачэнне, наладзіць знаёмства з людзьмі, якія табе імпануюць. Форма ў першай палове месяца ненайлепшая, ды нічога сур'ёзнага табе не павінна пагражаць. У прафесійным жыцці шмат змен, ды з усім справішся.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2015 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Украіна
## ў цяні вайны (7)

Раніца ў «Магноліі» прывітала славянскім ланчам. У памяшканні за шклянымі сценкамі, якое знаходзілася па другім баку калідора ад нашага апартамента, гучала як у вуллі. Хлопцы ў белых кашулях, заказалі на снеданне адбіўныя катлеты, бульбу фры, боршч і пляшку гарэлкі. Яны параўноўвалі цану цэглы і каменю, дамаўляліся на транспарт, абмяркоўвалі лагістыку. Бізнесовую размову спавівалі хмары цыгарэтнага дыму, каларытная ланянка і характэрны для пахмелкі ідыятычны рогат. Паўтары гадзіны пазней, калі будзем пакідаць пансіянат, кампанію за шклянымі сценкамі папоўняць прыгажуня і бутэлька шампанскага...

Мы не асмеліліся мяшаць у дзелавых размовах, таму зышлі на ніз гостэля, у кавярню, якая з-за дэкору напамінала хату гадалкі. З кожнага кутка і паліцы атакавала карпацкая флора: вянкі з зёлак, настойкі на карэнні, дубовыя галінкі, прыправы і зерне ў слоях... На прылаўку і паліцах экспанаваліся старыя ручныя млынкі, ступкі, жалезныя прасы на вугаль, гладышкі, сальнічкі, гліняныя бутлі на мёд, каўшы...

Мы заказалі яечню з авечай брынзай і каву «амерыкана». У тэлебачанні паказвалі расейскі гіт-парад, постсавецкія зоркі эстрады танчылі і спявалі на фоне экзатычных курортаў у Іспаніі, Грэцыі, Майорцы. Віртуальны ландшафт з тэлебачання, густа прыаздоблены пальмамі, дзіўна пераклікаўся з карпацкай флорай і этнаграфіяй, якая таксама здавалася гламурнай. Загледжаныя ў танцы, пальмы і вянкі, мы нават не прыкмецілі як усярэдзіну заглянуў сам кіраўнік «Магноліі».

— Слава Украіне! — замест «добры дзень» кінуў у бок кухаркі, якая смажыла нам яечкі.

— Героям слава! — з ветлівай усмешкай адказала жанчына.

Ваенны пароль у якасці штодзённага прывітання нікога не здзівіў і не напалохаў. Наадварот, усё здавалася на месцы. На гэты манер віталіся сябры і знаёмыя, іншыя гаварылі патрыятычны лозунг на развітанне або замест слова «дзякуй». Мы таксама хацелі пакінуць гостэль у патрыятычным стылі — пасля кавы «амерыкана», насуперак правілам здаровага харчавання, заказалі яшчэ ўкраінскі боршч.

* * *

У дзённым святле Каламыя напамінала ўжо не толькі Варшаву, але і Будапешт, Вену і нават Лондан.

Мы ішлі па вуліцы Тэатральнай, прыпяваючы гуцульскую каламыйку, запісаную Оскарам Кольбергам.

Коломия — не помия  
Коломия — мисто  
В Коломиї дивчаточка  
Як грэчанэ тисто!..

Этнограф Оскар Кольберг вельмі спрычыніўся да сусветнай славы Каламыі. Прыехаў сюды ў 1880 годзе, па запрашэнні Чарнагорскага аддзела Татранскага таварыства ў Каламыі, каб дапамагчы ў арганізацыі выстаўкі на тэму побыту гуцулаў. Паказ наведаў сам імператар Франц Іосіф, пра падзею пісалі еўрапейскія газеты, яны адначасова заахвочвалі наведаць Каламыю. Невыпадкова. На той час горад перажываў гаспадарчы бум. Яго рухавіком была нафта, якую адкрылі ў наваколлі. Як грыбы пасля дажджу раслі буравыя вышкі і фабрыкі. У Каламыю з'ехаліся прадпрымальнікі з Англіі, Нямеччыны і нават Амерыкі. На вуліцы гучала ўкраінская, англійская, нямецкая, польская мовы ды яўрэйскія дыялекты. Мясцовы элемент, згодна з духам пачатку індустрыяльнай эпохі, бачыўся як каларытны патэнцыял, варты дабраўпарадкавання. Станіслаў Вінцэнз, аўтар пяцітомніка «На высокай Паланіне», так пісаў пра горскіх тубільцаў-гуцулаў, якія прыязджалі ў Каламыю: *Гэта жывыя ўзоры для этнаграфічнага музея, кожная вёска, якая прыязджае на торг з наваколля, гэта розныя тыпы людзей, розныя строі, павозкі, ды нават гаворкі.*

Тадышнія бізнесоўцы належным чынам ацанілі праект этнографаў і інтэлектуалаў. Музей народнага мастацтва Гуцульшчыны і Пакуцця пабудавалі ў 1896-1902 гадах. Спачатку ён атрымаў прыгожую назву: Народны дом.

Мы не маглі абмінуць такі славуты помнік. Ён знаходзіўся па той жа вуліцы Тэатральнай, што і наша «Магнолія».








* * *

За парогам музея сустрэў нас ахоўнік у ваенізаванай форме. Ён загадаў скінуць з плячэй рукзакі і аставіць увесь багаж у раздзявальні. Мы паслухмяна выканалі загад, набылі квіткі за 20 грывень (прыблізна пяць злотых) і па мармуровай лесвіцы падняліся ў залы з экспанатамі. У першым памяшканні мы наткнуліся на экскурсію асоб з абмежаванымі магчымасцямі. У сярэдзіне групы прамаўляла цётка ў вышыванцы, якая талкавала пра пачаткі горада, пра князя Каламана і гандаль соллю ў сярэднявеччы. Інваліды, замест хлынуць гістарычныя звесткі, адбіваліся ад групы, і як сапраўдныя індывіды, перліся да карцін і экспанатаў, якія ім спадабаліся. Пафасны аповед экскурсаводкі адбіваўся як гарох аб сцяну. Тая каламуць, якую стварылі вакол сябе наведвальнікі з глыбінкі, здавалася патрэбным дапаўненнем...

З дрыготкім сэрцам мы глядзелі старыя іконы, літургічныя кнігі і прадметы з неіснуючых ужо карпацкіх цэркваў; іконы, напісаныя мастакамі-прымітывістамі, зззялі жывой міласэрнасцю, да іх хацелася памаліцца і прыкласці галаву. Падобныя эмоцыі выклікаў драўляны інтэр'ер хаты, прасякнуты пахам ліпавага мёду.

Маляваныя кажухі і аздобныя лапці, разныя лыжкі і талеркі, хутчэй практычныя рэчы, прамаўлялі як творы мастацтва. Дэкор папаўняла маляваная пасуда з матывамі карпацкіх звяроў з аленем на першым месцы. Калекцыя пасуды вылучалася густоўнай аранжава-зялёна-карычневай каларыстыкай.

Мы застраглі ў зале з вопраткай і аздобамі. Тут здзівіла ўмеласць па-майстэрску спалучаць рэзкія колеры, напрыклад зялёны з ружовым. Гуцулам удалося скласці строй з дзесяці і нават больш колераў, і адначасова стрымаць гармонію. Да каляровай кашулі і паласатай спадніцы дзяўчаты надзявалі масіўныя караллі з сярэбраных манет, якія арганізавалі парадак цэлай формы і яшчэ выконвалі ролю абярэгаў ад злога вока...

Ад энергіі колераў аж віравала ў галаве!

Суцішэнне і вяртанне «на зямлю» прыйшлі ў апошняй зале, дзе працаваў мяшчанскі салон у заходнееўрапейскім стылі. Тут уразіў... жывы экспанат. Ля печкі сядзела працаўніца музея ў вышыванцы і вязала на прутках шведрык.

На жаль, яе цёплы вобраз мы згубілі, замыкаючы за сабой дубовыя, прыаздобленыя тонкім вітражом дзверы.

На іх красаваўся значок з рускай матрошкай у жалезным шлеме, мілітарным жупане і з аўтаматам. Перакрэсленая чырвонай рыскай фігурка, галасіла ў такт эканамічнай вайны і напамінала пра эмбагра на прадукты ворага: *Нэ купуй російське!*

Хоць такі значок мы бачылі ўжо раней, тут, на дзвярах Музея народнага мастацтва Гуцульшчыны і Пакуцця, прамовіў як карпацкія чары.

* * *

Карпацкі фальклор, вабны і натхняльны, усё ж не здолеў зацьміць рэха вайны. Яно не толькі гучала на білбордах і ў СМІ. На вонкавых дзвярах Музея мы пабачылі стэнды з партрэтамі «Нябеснай сотні». Галерэю ахвяр прыаздобілі жывымі кветкамі, знічкамі і надпісам «Герої не пімирають!». Большасць з іх загінула ў лютым гэтага года з рук снайпераў, якія размясціліся на дахах будынкаў ля кіеўскага Майдана і стралялі па безабаронных людзях. Сярод «Нябеснай сотні» мы пабачылі маладзенькага беларуса Міхася Жызнеўскага. Ва Украіну патрапіў з-за палітычнага пераследу. Тут уступіў у рады нацыяналістычнай арганізацыі УНА-УНСО. Жызнеўскага застрэлілі 22 студзеня на вуліцы Грушэўскага. Снайпер вылавіў яго з натоўпу і пацэліў проста ў сэрца.

Пасля падобныя стэнды «Нябеснай сотні» мы сустрэлі ў кафедральным саборы Праабражэння Гасподняга. Інтэр'ер з насценнымі фрэскамі і разнымі царскімі варотамі жыва напамінаў беластоцкую Свята-Духаўскую царкву, што на Антонюку. Ля прылаўка са свечкамі дзяжурыў старож. У той час, калі мы нахіліліся ў бок «Нябеснай сотні», дзядзька нахіліўся да нас і моўчкі кантраляваў кожны рух.

Усе партрэты герояў былі пазначаны нацыянальным сцяжком, наш беларус, Міхась Жызнеўскі, атрымаў тут чырвона-зялёны.

— Людзі хацелі, каб было добра! — растлумачыў старож.

Ён сам упершыню пачуў пра бел-чырвона-белы сцяг. Але каб залагодзіць непаразуменне з сімволікай, заявіў, не хаваючы сімпатыі:

— Беларусы, нашы браты і найлепшыя суседзі.

Мы не хацелі развіваць тэму братэрства. Ва Украіне гэтае слова мяняла значэнне з гадзіны на гадзіну. Пакольку дзесяць гадоў таму ўсе пад самыя нябёсы выносілі Польшчу і Аляксандра Квасьнеўскага, зараз прыток сімпатыі быў накіраваны ў бок Аляксандра Лукашэнкі. Прэзідэнта Беларусі хвалілі не толькі за падрыхтоўку міратворчых самітаў у Мінску. Яго хвалілі за тое, што абдурыў законы і даставіў ім расейскую салярку для танкаў...

(працяг будзе)

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960